 


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 41 (666) ГОД XII 8 КАСТРЫЧНІКА 1967 г. ЦАНА 60 гр.




Беласток. Плошча ля вуліцы Прухняка. Фота: **В. Рудчык**

## САЛДАТЫ КАСТРЫЧНІКА

# У БАЯХ КРЫВАВЫХ

Хрысан Іванюк, селянін з вёскі Паўлы, у Бельскім павеце, летам 1915 года з хваляй бежанцаў апынуўся ў Растоўскай вобласці. Бацькі знайшлі прытулак у казацкай станіцы Маныч, а ён пастуіў на працу ў металургічны завод горада Сулін. Стаў членам вялікага, звыш 10-цітысячнага калектыву рабочых, якія сваім потам папаўнялі банкавае конта капіталіста. Паступова 16-цігадовы хлапчук з глухой падляшскай вёскі апынуўся ў іншым, невядомым для яго свеце. Цяжкая праца ў пракатным цэху дапамагла хутка зразумець патрабаванні рабочых, якія яны выказвалі на мітынгах.

У кастрычніку 1917 года на заводзе завязалася чырвоная гвардыя. Атрад, які ўзначальваў матрос Носаў, налічваў звыш 1000 чалавек. Хрысан Іванюк быў адным з іх. Атрымалі зброю, павучыліся крыху страляць і пайшлі ў бой, на казакаў, на армію генерала Карнілава. Стаяў ён у Новачаркаску. Тут быў іх цэнтр, казацкая сталіца.

— Армія ў Карнілава, — успамінае Іванюк, — адны кадэты, афіцэры. Завязаўся заўзяты бой. Казацкая афіцарня ішла, як на парадзе. А ў нас усяго ледзь 4—5 палявых гармат, кулямёты «максім», пехацінскія вінтоўкі і рэвалюцыйная ўстойлівасць. На шчасце, на дапамогу нам прышоў атрад Данцова. І тады карнілаўцы адступілі. Гналі мы іх нейкіх 300 кіламетраў — аж у Казанскія лясы. Па 3—4 дні без ежы, змучаныя і абарваныя. Ніякіх жа сталых паставак для нашых салдат ніхто не наладжваў. Толькі чалавек і скарыстаў, што недзе ў гаспадара пад'еў.

Пад канец 17 года вярнуліся мы ў свой Сулін, каб перачакаць зіму. Адпачыць спакойна не давялося. У недалёкай станіцы Міхайлаўская бунтаваліся казакі. Заедзем, установім савецкую ўладу, а на другі дзень паведамляюць, што ўжо па ўсім... пахароны трэба спраўляць. І так аж чатыры разы.

Пад весну 18 года на Дон нахлынулі немцы. Наша камандванне склікала салдацкі мітынг.

Рашылі бараніцца. Бой завязаўся на станцыі Зверыва. Заўзяты, крывавы. Амаль тыдзень часу мы адбіваліся, пакуль хапіла боепрыпасаў. Загінуў камандзір, матрос Носаў. Тады адступілі. Здалі Новачаркаск, Сулін, Растоў і спыніліся на другім беразе Дона — у Батайску. Трымаліся там яшчэ тыдзень часу. Нечакана ад поўдня нахлынулі ноччу казакі — першы казацкі пластунскі добраахвотніцкі полк. Подступам (падаліся за чырвоных) выразалі нашых вартавых і напалі нас у сне. Мала хто ўцёк. Я трапіў у палон.

Твар майго расказчыка лёгка ўздрыгвае, дрыжачымі рукамі бярэ ад мяне папяросу, прагна курыць і маўчыць. Відаць, адазвалася найбольш балючая струна яго ўспамінаў.

— Палону тады не было, — адазваўся ўрэшце дзядзька Хрысан. — Трапіў, значыць канец. І ў іх, і ў нашых. А жыць хацелася. Чалавек толькі тады разумее, як дарагое яму жыццё, калі стаіць насупраць кулямётнага дула. Было нас 50 чырвонагвардзейцаў. Разбулі нас і распранулі да паўштанікаў. Паставілі на каленях на снезе. Выступіў іх казацкі атаман і прачытаў прыгавор. Кулямётчыкі чакалі на сігнал. Я пачаў прасіцца: што бежанец, што не па сваёй волі... і ўсялякую такую хлусню.

— А будзеш нам служыць? — запытаў казацкі афіцэр.

— Так точна, ваша благароддзе! — заявіў я.

Так апынуўся я сярод белых. Даравалі жыццё яшчэ аднаму бежанцу. Накіравалі мяне ў атрад разведчыкаў і паслалі пад горад Луганск. Я не меў намеру аставацца ў казакаў. Прыстаў да іх толькі таму, каб ратаваць жыццё. Шукаў тады нагоды да ўцёкаў. На працягу пару тыдняў пільна прыглядаўся да сваіх таварышоў па разведцы. Аказалася, што яны таксама незахоплены службай у белых.

Аднойчы пайшлі мы ў разведку. Мелі расследваць, ці ёсць чырвоныя ў вёсцы за нейкіх 12 кіламетраў. Ноччу падышлі пад вёску, прыслухаліся. Ёсць нейкае войска! Ведаем, што гэта не казакі, значыць чырвоныя. Прыселі закурыць.

— Братцы, — гавару, — давайце пяройдзем да чырвоных.

— А не павесяць нас? —

— Калі я з вамі пайду, нічога вам не будзе! — пераконваю іх. 6 чалавек пайшло тады са мной.

— Полк Нырненка, у які мы трапілі, налічваў каля 2500 салдат. Была гэта ўжо рэгулярная часць Чырвонай Арміі. Салдат мабілізавалі.

Пайшлі мы на кавалерыю генерала Мамантава. Дагналі іх за станцыяй Праваліна.

Мамантаўцы імчаліся на ўсю, толькі снег туманам ляцеў. Застракаталі на-

(Працяг на стар. 4)



Хрысан Іванюк, з вёскі Паўлы, былы чырвонагвардзеец. Фота: **В. Рудчык**

# ДЗЕНЬ МІЛІЦЫЯНЕРА

**У календары адзначаецца 7 кастрычніка. Устаноўлены ён таму, каб увекавечыць дату заснавання ў 1944 годзе дэкрэтам Прэзідэнта Краёвай Рады Нарадовай грамадзянскай міліцыі. 23 гады міліцыянеры сцерагуць правы і спакой грамадзян Народнай Польшчы. Ды па-праўдзе свята ў іх няма ніколі. Дзень міліцыянера расцягваецца на цэлыя суткі.**

Які тады ён ёсць — гэты будні дзень міліцыянера? Шукаючы адказу, наведаў я міліцыянераў у Нараўцы.

— Наш пастарунак, — гаворыць камендант, старшы сержант Уладзімір Глінскі, — існуе ад 1944 года. Ахоплівае ён тры грамадскія рады. Спачатку было тут неспакойна. Банды не давалі жыць. А цяпер... Людзі тут спакойныя. Небяспечных злачынцаў няма. Толькі некалькі хуліганаў развясельвае нам жыццё. Найгоршыя гэтыя на матацыклах. Вось 7 жніўня г.г. — на Ганну — Пятро Паўлючук з вёскі Плянта вяртаўся з фэсту зусім п'яны ды падвозіў яшчэ двух сяброў. Міліцыянеры хацелі спыніць яго. Ён націснуў газ і... тут жа ўсе трое зарыліся носам у пясок. На шчасце гэтым аматарам матацыклавай гульні нічога дрэннага не сталася. Вядома, уласніку матацыкла адабралі мы права язды. Праводзім сістэматычна сходы ў вёсках і ў школах. Паясняем дарожныя правілы. А людзі сваё. Ездзяць без каскаў, п'яныя.

Адзін наш міліцыянер прылапаў на матацыкле п'янага Мікалая Пучынскага з Нараўкі. Ён прабаваў адкупіцца хабарам.

— Пане міліцыянер, вы ж мала зарабляеце. Для мяне гэтыя сто злотых нішто, а вам прыдадуцца.

— Адчапіся, чалавеча, бо будзеш пакараны!

— Ну, што вы, пане міліцыянер! Бярыце!

Міліцыянер узяў, прынёс на пастарунак і склаў пратакол. Хабаршчыку прыдзецца пасядзець.

— А калі ўжо гутарка ідзе пра хабар, — працягвае камендант, — дык варта ўспомніць пра тое, як Вера Чарнецкая з Нараўкі прабавала падкупіць суддзю павятовага суда з Бельска. Судзілася яна за падзел маёнтку. Суддзя прыехаў на мясцовы агляд. Вера Чарнецкая і суддзя праходзілі праз сені. Суддзя пачуў, што хтосьці дакрануўся да яго кішэні. Хутка ўсунуў руку ў кішэню і на вачах прысутных выцягнуў дзве пяцісоткі.

— Гэта вы? — запытаў суддзя жанчыну.

Яна маўчала. Прышлося скласці фармальны пратакол і справа пайшла ў суд. Вера Чарнецкая атрымала 6 месяцаў турмы.

У кутку камендацкага пакоя заўважыў я на стале чатыры літроўкі з нейкай яснай вадкасцю.

— Гэта самагонка Мікалая Кабаця з Міхноўкі, — паясняе камендант. — Страцілі мы да яго ўжо цярплівасць. Нібы свой чалавек, солтыс вёскі, актывіст... Папярэджвалі яго, прасілі. Не памагала. Дык нечакана правялі вобыск і вось вынік — 4 літроўкі. Прыдзецца заплаціць яму высокі штраф і яшчэ пасядзець.

Здараюцца аднак справы, як з кніжкі або фільма. У вёсцы Тарнопаль пакахаліся маладыя. Бацькам кавалера не спадабалася аднак бедная Марыся. Забаранілі сыну хадзіць з ёю. Сын не паслухаў бацькоў, ні за што не хацеў пакінуць сваю каханую. Тады сямейка рашыла пашукаць іншага спосабу на дзяўчыну. Малодшы сын, Мікалай Васько, напаў на Марысю і да непрытомнасці пабіў яе бутэлькай. Вярнуўся дахаты і пахваліўся ўсім, што гэтая... такая... не будзе ўжо заварочваць галавы яго брату. Але брат зараз жа адшукаў акрываўленую дзяўчыну і выклікаў хуткую дапамогу. Мікалаем Васько заняўся пракурор.

Казімір Камажэўскі выракся жонкі і траіх сваіх дзяцей. Уцёк у Беласток. Тут недзе працуе і, як кажуць, добра яму жывецца. Жонка з дзяцьмі асталася ў вёсцы Лука. Жыве бедна. Калі ў 1965 годзе маці захварэла і забралі яе ў бальніцу, дзеці асталіся зусім без апекі. Занялія тады імі нараўскія міліцыянеры. Пераказалі дзеці ў дзяржаўны дзяцінец. Маці аднак не згадзілася на такую развязку.

(Працяг на стар. 5)

 

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

## СВЕТ

### РЭАЛЬНАЕ СТАНОВІШЧА

На сесіі ААН выступіў французскі міністр замежных спраў Куў дэ Мюрвіль. Заклікаў ён да ўрэгулявання в'етнамскай праблемы гаворачы, што ініцыятыва павінна выплысці ад заангажаванай у вайне найвялікшай дзяржавы — Злучаных Штатаў.

Французскі міністр выказаў таксама перакананне, што, каб вярнуць мір Блізкаму Усходу, неабходна прыняць дагавор, на які згадзіліся б усе бакі і які апрабавала б ААН. Выказаў ён адначасова перакананне, што на даўжэйшую мэту ніхто не можа разлічваць на тое, што скарыстае з замацавання існуючага стану рэчы. Куў дэ Мюрвіль супрацьставіўся пастулатам Ізраіля ў справе непасрэдных арабска-ізраільскіх перагавораў.

### А ТЫМ ЧАСАМ...

...Ізраіль засяляе сваімі людзьмі захопленыя арабскія землі. Але не толькі. Пры дапамозе пушачных бамбёжак хоча прымусіць Егіпет паддацца. Але і тут дзякуючы егіпецкай народнай абароне агрэсар не можа бяскарна дзейнічаць атрымоўваючы не малы «адказ агнём».

Пастулкаў Ізраіля не хваляць нават многія амерыканскія газеты. Цікава, што аб гэтым на даўжэйшую мэту думаюць ізраільскія кіраўнікі?

### ВЯЛІКАЯ ЧАЦВЁРКА...

...міністраў замежных спраў: Савецкага Саюза, ЗША, Францыі і Англіі сустрэлася з У Танам. Аб чым дыскутавалі — не апубулікавана. Журналістаў паінфармавалі, што не дыскутавалі аб в'етнамскай праблеме. Адсюль стаецца ясным, што размова была аб развязцы блізкаўсходняга канфлікту.

### АПТЫМІЗМАМ...

...веяла з Югаславіі. Тут адбываўся міжнародны астранамічны кангрэс. Вучоныя згодна сцвердзілі, што за 2—3 гады чалавек высадзіцца на Месяцы. Гаварылі аб справе эксплуатацыі прыродных багаццяў з Месяца. Абмяркоўвалі таксама справу тэлекамунікацыі на Месяц, падкрэсліваючы часова тое, каб яе не выкарыстоўваць для ваенных мэт.

### КРОКІ ДАБРАБЫТУ

Пленум ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР прынялі пастанову ў справе павелічэння дабрабыту савецкага народа. У першым паўгоддзі 1967 года заработкі некаторых катэгорый рабочых узрастуць на 15 працэнтаў. Уводзіцца таксама дадаткі да зарплаты і ўводзіцца ільготы ў многіх галінах гаспадаркі і новазагаспадараваных акругах. Рабочым і служачым, якія дагэтуль карысталі з 12-ціднёвага водпуску, будзе водпуск 15-днёвы. Абніжаецца патрэбны узрост, каб магчы перайсці на пенсію паасобных работніц тэкстыльных прадпрыемстваў з 55 да 50 год і калгаснікаў — мужчын з 65 да 60 год, а жанчын з 60 да 55 год.

### СТУДЭНТЫ

У юбілейным годзе закончыла вузы ў СССР 480 тысяч інжынераў, аграномаў, лекараў, педагогаў, эканамістаў... У 1970 годзе на першыя гады навукі вузы прыймуць 940 тысяч людзей. (АК)

## БССР

### МАНЕЎРЫ

На Беларусі — а таксама на Украіне — адбываліся вялікія манеўры войскаў Беларускай ваеннай акругі, а таксама Кіеўскай, Прыкарпацкай і іншых украінскіх ваенных акруг. Манеўры, крыптанім «Дняпро», паказалі высокую баявую падрыхтоўку савецкіх узброеных сіл.

Ваенныя манеўры адбываліся ў выглядзе барацьбы паміж «усходнімі» і «заходнімі».

### ПЛАН

Прамысловасць Беларусі выканала датэрмінова — 27 верасня — план прадукцыі за дзевяць месяцаў гэтага года. Да канца месяца верасня выпрацавана значныя колькасці звышпланавай электраэнергіі, выпушчана розных машын, тканінаў, швейных вырабаў, харчовых тавараў і вырабаў культурна-бытавога прызначэння.

### ДЭЛЕГАЦЫЯ

Брэст наведала замежная дэлегацыя, у склад якой уваходзілі кіраўнікі піянерскіх і маладзёжных арганізацый Балгарыі, Румыніі, Цэйлана, Алжыра, Нарвегіі, В'етнама, Венгрыі.

Дэлегацыя прыбыла па запрашэнню ўсесаюзнага ЦК камсамола.

### НЯМЕЦКІЯ

Дэлегацыя вучоных Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі наведала Мінск. Дэлегацыю ўзначальваў доктар Г. Вайц, намеснік Старшыні Рады Міністраў Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

Дэлегацыю нямецкіх вучоных прыняў намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР А. Золаў. Нямецкіх гасцей пазнаёмлена з развіццём эканомікі і культуры Беларусі. Госцям паказана дзеянне электронна-вылічальнай машыны «Мінск — 22», якая знаходзіцца ў навукова-даследчым інстытуце эканомікі і эканоміка-матэматычных метадаў планавання пры Дзяржплане Беларускай ССР. Вучоныя пабывалі на заводзе імя Арджанікідзе.

### «ТРЫБУНА»

У гонар 50-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі пры Акадэміі навук Беларускай ССР утворана лекторый **«Трыбуна вучонага»**. У гэтым лекторыі найлепшыя беларускія і рускія вучоныя будуць выступаць з лекцыямі два разы ў месяц, у сераду, па актуальных пытаннях сучаснай навукі і тэхнікі. Уступ на лекцыі свабодны.

### МАГІСТРАЛЬ

У гэтым годзе запланавана пачаць будову гігантычнай газавай магістралі, праз якую ў будучым будзе дастаўляцца газ Мінску з далёкіх раёнаў Сібіры — з Цюменскай вобласці.

### МІНСК

У Мінску ёсць 5 тэатраў, 44 палацы культуры і клубы, 21 кінатэатр, 8 музеяў, 179 масавых бібліятэк (публічных). (с.я.)

## ПОЛЬШЧА

### УПАРАДКАВАННЕ ГАСПАДАРКІ ЗЯМЛЁЮ

28 і 29 верасня адбылося Пленарнае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі прысвечанае далейшаму развіццю сельскай гаспадаркі. Членам Цэнтральнага Камітэта прадстаўлены быў да дыскусіі даклад Палітычнага бюро «Аб далейшым развіцці сельскай гаспадаркі». Са шматлікіх спраў, якія закраналіся ў дакладзе, гаспадароў усходняй Беласточчыны несумненна асабліва цікавіць раздзел прысвечаны паляпшэнню загаспадаравання зямлёю.

У дакладзе сцвярджаецца, што справа ўласцівай гаспадаркі зямлёю вельмі істотная, таму што колькасць зямлі на аднаго жыхара краіны ў сувязі з прыростам насельніцтва безупынна змяншаецца. Сродкам да адпаведнага выкарыстання зямлі павінна быць камасацыя цераспалосіцы. Даклад пералічвае карысці, якія можа прынесці агульнанацыянальнай гаспадарцы камасацыя цераспалосіц, а наступна сцвярджае:

«У сувязі з гэтым трэба пачаць у магчыма шырокім маштабе працы над камасацыяй, якія адкрыюць дарогу для далейшай інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі. Прымаючы такое рашэнне, трэба ведаць, што камасацыя з'яўляецца неабходнай для развязкі справы малапрадукцыйных індывідуальных гаспадарак».

Далей даклад гаворыць аб новай праектаванай сістэме пераказу дзяржаве зямлі, якая не мае здольных да працы гаспадароў. Згодна з гэтай сістэмай гаспадар, які перакажа не менш як 5 гектараў зямельных угоддзяў, атрымае пенсію вышынёю ад 800 да 1200 злотых месячна. Адначасова зможа ён пакінуць да ўласнага выкарыстання не больш як 1 гектар зямлі і гаспадарчыя забудаванні. Гаспадары, якія хацелі б пераказаць дзяржаве ўсю зямлю і забудаванні, атрымаюць дадатковую зарплату. Калі б хацеў пераказаць сваю зямлю дзяржаве малады, здольны яшчэ да працы гаспадар, перыяд працы на гаспадарцы будзе яму залічаны як перыяд неабходны да атрымання пенсіі. Прадбачваецца таксама магчымасць выкупу дзяржаваю часткі зямлі ад тых гаспадароў, якія не ў сілах апрацоўваць цэласці сваіх гаспадарак.

Далейшая частка дакладу прысвечана ўмовам камасацыі. Гаворыцца там перад усім аб неабходнасці ўдасканалення абавязваючых дагэтуль даваенных законаў аб камасацыі. Новыя законы павінны даваць магчымасць праводзіць камасацыю хутка і спраўна, а адначасова не дапускаць да доўгіх шматгадовых непаладак паміж яе ўдзельнікамі. У першую чаргу будуць камасаваныя тыя вёскі, дзе многа апушчаных гаспадарак, якія мог бы пераняць ПГР, затым вёскі, дзе сярэднія размеры гаспадарак параўнальна вялікія, лепшая якасць глеб, лепшыя забудаванні, вышэйшая сельскагаспадарчая культура — словам вёскі, якіх гаспадаркі могуць у хуткім часе прынесці вялікі даход. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### СЯЛЯНСКАЯ ЗАБАСТОЎКА

30 год таму назад сяляне Сувальскага павета вялі заўзятую забастовачную барацьбу супраць прыгнёту і несправядлівасці. Выступалі яны салідарна з рабочымі.

1 кастрычніка г.г. у Сувалках урачыста адзначалася 30 гадавіна гэтай сялянскай забастоўкі. Удзел прынялі прадстаўнікі галоўных ваяводскіх партыйных і дзяржаўных установ: А. Лашэвіч, Я. Рызнар і С. Жмійка. Два ўдзельнікі сялянскай забастоўкі — Пятро Андрулевіч і Язэп Палякоўскі — атрымалі Кавалерскія Крыжы Ордэна Адраджэння Польшчы.

### САВЕЦКІ ЖУРНАЛІСТ

На Беласточчыне пабываў супрацоўнік савецкай газеты «Известия», журналіст Віктар Паўлавіч Бірукоў. Наведаў ён вёску Герасімавічы, дзе знаходзіцца школа імя героя Савецкага Саюза Р. Кунавіна, пазнаёміўся з дзейнасцю сельскагаспадарчага гуртка ў Новым Дворы на Дуброўшчыне, а ў Беластоку сустрэўся з калектывамі «Газеты Беластоцкай», «Нашай Всі» і «Нівы». Рэдактара Бірукова прымалі ўсюды надзвычай сардэчна.

### ІНТЭРВ'Ю В. ШВЕДА

«Газета Беластоцкая» ад 1 кастрычніка г.г. змясціла інтэрв'ю, якое даў вядомы нам беларускі паэт і грамадскі дзеяч, Віктар Швед. Выказвае ён перш за ўсё вялікую прывязанасць да Беласточчыны.

### СКУПКА ЗБОЖЖА

Сяляне Беласточчыны прадалі дзяржаве ўжо 50 тысяч тон збожжа. Найбольш збожжа пастаўляюць гаспадары Ломжынскага, Элцкага і Манецкага паветаў. Слаба праходзіць скупка ў Высокамазавецкім, Гайнаўскім, Дуброўскім і Бельскім паветах. На Беласточчыне запланавана купіць ад сялян 100 тысяч тон збожжа.

### СПОРТ

Лёгкаатлетычныя каманды Гродна, Ольштына і Беластока два дні змагаліся за першынство на Беластоцкім стадыёне імя Кусацінскага. Перамогу заваявала Беластоцкая каманда.

### КІНУЛАСЯ ПАД ЦЯГНІК

На станцыі ў Бельску стаяла сярод натоўпу жанчына з некалькігадовай дзяўчынкай. Калі набліжаўся цягнік, яна пакінула дзіця, а сама кінулася на рэйкі. На шчасце ўпала так, што колы цягніка яе мінулі і нічога дрэннага ёй не сталася. Чакае яе зараз судовая расправа за спробу самагубства.




**NIEDZIELA 8.X.**

8.45 Program dnia; 8.50 TV Kurs Rolniczy; 9.25 „Przypominamy, radzimy"; 9.40 „Po salach Muzeum Sztuki"; 10.10 „Minierzy podniebnych dróg" — cz. III; 11.30 PKF; 11.40 Wiadomości dziennika; 12.00 „Zawsze w niedzielę" — Turniej Miast; 14.15 Międzynarodowe zawody konne; 15.30 „Przemiany"; 16.00 Dla dzieci: — „Powrót bajki" („Ula i świat"); 16.25 „Sezam muzyczny"; 17.05 „Ostatni generał" („Ludzie i zdarzenia"); 17.20 „Teatr Telewizji na świecie" — „Na stacji" — film jap.; 18.05 „Karty z zamierzchłej przeszłości; 18.25 — film; 19.00 „Felieton literacki"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.05 Mistrzostwa Europy w koszykówce mężczyzn; 21.05 Niedzielny program rozrywkowy; 22.05 Niedzela Sportowa.

**PONIEDZIAŁEK 9.X.**

15.40 Program dnia; 15.45 Politechnika TV. Geometria; 16.25 Politechnika TV. Chemia; 16.55 Wiadomości dziennika; 17.00 Dla dzieci: Kino Ptyś; 17.20 „Tajemnica dzikiego szybu" — film fab.; 18.50 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.05 Teatr TV: R. Bratny „Brulion; 21.25 „Kino Krótkich Filmów"; 21.55 „W kanionach" — film Tele-Aru; 22.10 Dziennik TV; 22.25 Program na jutro; 22.30 Politechnika TV. Geometria wykreślna; 23.00 Politechnika TV. Chemia.

**WTOREK 10.X.**

8.10 „Wyspa" — film („Dr Schluter"); 10.00 Dla szkół: (kl III) „Moje książki i zeszyty"; 10.20 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. XI) „W małym dworku"; 12.30 „Przysposobienie Rolnicze"; 13.05 Przerwa; 15.05 Program dnia; 15.10 „Przysposobienie Rolnicze; 15.45 Politechnika TV. Matematyka; 16.25 Politechnika TV. Matematyka; 16.55 Wiadomości dziennika; 17.00 Dla młodych widzów: „Rozkosze łamania głowy"; 17.25 „Łódź z Dublina" — film; 17.55 „Telekram"; 18.05 „Wiem wszystko" — teleturniej; 18.35 „Urodzeni w niedzielę" („7 milionów młodych"); 18.50 „Dom dla dwustu tysięcy" — z cyklu „Nos dla tabakiery"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.05 TV Kurier Warszawski; 20.20 „Królestwo karakułów" z cyklu „Od Kaukazu do Tień-Szaniu"; 20.40 „Wyspa" — film („Dr Schluter"); 22.25 Dziennik TV; 22.40 Program na jutro; 22.45 Politechnika TV. Matematyka; 23.15 Politechnika TV. Matematyka.

**SRODA 11.X.**

9.55 Dla szkół: (kl. VII) — Wychowanie obywatelskie; 10.30 „Interludium w Wenecji" — film („Święty"); 11.20 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Chemia; 12.25 Przerwa; 15.40 Program dnia; 15.45 Politechnika TV. Matematyka; 16.20 Politechnika TV. Matematyka; 16.50 Wiadomości dziennika; 17.00 Wszechnica TV: („Maria Skłodowska-Curie"); 17.30 Dla dzieci: Teatrzyk Kieszonkowy „Złota kaczka"; 17.50 „Nie tylko dla pań"; 18.10 PKF; 18.20 Estrada Zespołu Śląskiego Okręgu Wojskowego; 19.05 Film; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.05 „Zaślubiny z morzem"; 20.25 „Uśmiech Mony Lisy" — film TV angl.; 21.10 „Światowid"; 21.40 „Alicja Boniuszko tańczy" — film tv pol.; 21.55 Panorama literacka; 22.25 Dziennik TV; 22.40 Program na jutro; 22.45 Politechnika TV. Matematyka; 23.15 Politechnika TV. Matematyka.

**CZWARTEK 12.X.**

12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski — „Władysław Reymont"; 13.15 Przerwa; 15.40 Program dnia; 15.45 Politechnika TV. Fizyka; 16.25 Politechnika TV. Fizyka; 16.55 Wiadomości dziennika; 17.00 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem" w programie „Kto mieszka w lesie"; 18.05 „150-lecie Ossolineum; 18.20 „Poligon" — tv przegląd wojskowy; 18.55 Film; 19.20 Dobranoc, 19.30 Dziennik TV; 20.05 „Jazz Jamboree" — transmisja z otwarcia; 21.05 Teatr Sensacji: — „Przepustka"; 22.10 „Refleksje"; 22.40 Dziennik TV; 22.55 Program na jutro; 23.00 Politechnika TV. Fizyka; 23.30 Politechnika TV. Fizyka.

**PIĄTEK 13.X.**

9.55 Dla szkół: (kl. lic.) — Wychowanie obywatelskie; 10.30 „Niewidomy muzyk" — film fab. radz.; 11:45 Przerwa; 15.40 Program dnia; 15.45 Politechnika TV. Matematyka; 16.25 Politechnika TV. Matematyka; 16.55 Wiadomosci dziennika; 17.00 Dla dzieci „Miś z okienka"; 17.15 „To, co najlepsze"; 17.40 „Od Pakistanu do Bali" — film; 18.05 „To i owo"; 18.20 TV Kurier Mazowiecki; 18.40 Wszechnica TV: Magazyn Historyczny; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.05 „Czwarta zmiana"; 20.40 Film fabularny; 22.00 „Przez szkiełko socjologa"; 22.25 „10 minut recenzji"; 22.35 Dziennik TV; 22.50 Program na jutro; 22.55 Politechnika TV. Matematyka; 23.25 Politechnika TV. Matematyka.

**SOBOTA 14.X.**

9.30 „Strach" — film fab. USA; 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku; 11.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VI) „Pogoda i klimat"; 12.25 Przerwa; 15.50 Program dnia; 15.45 TV Kurs Rolniczy; 16.30 Program tygodnia; 16.55 Wiadomości dziennika; 17.00 Dla młodych widzów: „Dla każdego coś miłego"; 17.45 „Gawędy wilków morskich"; 18.00 „Podwodna wiosna" — film cz. II; 18.30 „Tele-Echo"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.10 „Dwa gołąbki" — film franc.; 20.40 „Zaczynamy od trzepania" — program rozrywkowy; 21.40 Dziennik TV; 21.55 Wiadomości sportowe; 22.05 „Strach" — film fab. USA.




**6 października (piątek)**

9.00 Nowości telewizyjne. 9.10 Kronika półwiecza. 1942 rok. 14.20 Program. 14.25 Wydarzenia dnia. 14.30 Język angielski dla dzieci. 14.50 Jubileuszowe starty „Komwolszczyka". 15.25 Nowości TV. 15.50 Ekran naszych przyjaciół. O NRD. 17.00 Dni kultury i sztuki RSFSR na Ukrainie. 20.00 Sztafeta nowości. 21.00 Mechanika teoretyczna.

**7 października (sobota)**

6.00 Technologia metalu. 6.30 Geometria. 7.00 Matematyka. 8.00 Gimnastyka dla wszystkich. 8.30 Detale maszyn. 9.00 Mechanika. 9.30 Język angielski dla dzieci. 9.50 Szkolna filmoteka. Dubrowski. Film. 12.15 Program. 12.20 Wydarzenia dnia. 12.30 Od sochy do traktora — reportaż. 13.30 „Trzeci semestr". 13.45 Bohaterska droga walki. Tezy KC KPZR. 14.00 Fakty rzecz uparta. 15.30 Klub kinopodróżników. 16.30 W efirze „Młodość". 17.30 Na „Ohieńczyk". 18.30 Nowości TV. 19.00 „Młodość republiki". Do rocznicy NRD. 19.40 „Uniewinniony z braku dowodów" — film. 21.00 Piłka nożna. Półfinał. Transmisja z Finlandii. Podczas przerwy „EXPO-67".

**8 października (niedziela)**

7.55 Program. 8.00 Budzik. 8.30 Do 50-tej rocznicy władzy radzieckiej. 8.50 „Łukamorje". Almanach literacki. 9.40 Po salach Państwowego muzeum. 10.10 Dla uczniów „Rodzima Białoruś". 10.50 Muzyczna szkatułka. 11.00 Białe i czarne. Szachowy klub. 11.20 Poezja. 12.00 Do dnia pracowników rolnictwa. 12.40 Z historii sztuki muzycznej. 13.00 Muzyczny kiosk. Do dnia pracowników rolnictwa. 15.00 Piłka nożna ZSRR — Bułgaria. Podczas przerwy nowości TV. 16.45 Kronika półwiecza. Rok 1943. 17.50 Nowości TV. 18.20 Lubiani soliści. Artystka A. Wiszniewska. 19.20 Traktorzyści — film. 20.45 Nowości dnia. 21.00 Sport. Transmisja z Finladii.

**АДНОЙЧЫ ВЕЧАРАМ**
**(Пачатак у папярэднім нумары)**

Міця адчуў, як да горла падкатваецца пякучы камяк, і апусціў вочы долу. Вучні з цікавасцю і трывогай пазіралі то на яго, то на настаўніцу. Нехта паціху ўздыхнуў.

Не мог уседзець на месцы і Вадзім. Ён імкнуўся не хвалявацца, але гэта яму цяжка ўдавалася. У галаве ў яго праносіліся дзесяткі самых розных думак. То яму хацелася падняцца і сказаць, што вінават не Міця, а ён, Вадзім. Але тут жа яго ахоплівала баязлівасць: што калі ён і сябру не дапаможа і выдасць сябе. То ён суцяшаў сябе думкай, што Марыя Васільеўна не адважыцца паставіць дрэнную адзнаку самаму лепшаму вучню. То раптам яму пачынала здавацца, што Міця вось-вось узніме галаву, павернецца да яго і гнеўна скажа: «Вось хто вінаваты! Гэта з-за яго я не вывучыў урока». Вадзім разгубіўся і не ведаў, што яму рабіць. Прыгнуўшыся над партай, ён са страхам чакаў, што адкажа Міця.

— Чаго ж ты маўчыш? Гавары! — паўтарыла настаўніца больш настойліва.

— Я не хвароў, Марыя Васільеўна, — глуха адказаў Міця. — Я... проста так не вывучыў... Паленаваўся...

У Вадзіма нібы гара звалілася з плеч. А настаўніца строга сказала:




— Вось гэтага я не чакала ад цябе. Сядай, прыйдзецца паставіць табе двойку...

Хлопчык, ні на каго не гледзячы, апусціўся на парту.

На перапынку вучні абступілі Міцю. Адны выказвалі яму сваё спачуванне, другія стараліся дазнацца, чаму ён усё-такі не вывучыў урока. Хоць Міця і сказаў, што ён паленаваўся, але гэтаму мала хто паверыў. Усе былі перакананы, што прычына хаваецца ў нечым іншым. Але Міця на запытанні таварышаў адказаў адно і тое ж:

« Я ж сказаў, што паленаваўся».

Міцева ўпартасць азадачыла Вадзіма. Ну, чаму ён не хоча прызнацца, сказаць праўду? «А можа мне самому расказаць аб усім?» Але на гэта ў Вадзіма не хапіла смеласці. «Вучні могуць тады затукаць мяне: яны вельмі не любяць тых, хто падводзіць сяброў». І Вадзім палічыў за лепшае пакуль што прамаўчаць, паглядзець, як будзе паводзіць сябе Міця.

Пасля заняткаў Вадзім і Міця зноў крочылі разам па шляху, абсаджаным кучаравымі бярозкамі.

Вадзім усё ніяк не мог пачаць размовы. Яму было дужа сорамна перад таварышам. Ён паважаў Міцю не толькі за розум, але за чуласць і ўважлівасць. Не было выпадку, каб Міця не дапамог Вадзіму або не даў чаго-небудзь. Ён заўсёды дзяліўся апошнім. І вось зараз, за сваю дабрату, Міця павінен перажываць, цярпець такі сорам. І праз каго — праз свайго сябра. Як жа ненадзейным аказаўся Вадзім. Мала таго, што ён падвёў Міцю, у яго не хапіла смеласці сказаць аб гэтым, ён нават не папрасіў прабачэння за свой благі ўчынак. Сапраўдныя сябры так не робяць. Гэта скажа кожны... Вадзіму не хацелася траціць дружбу з Міцем. Ён ведаў, што другога такога добрага таварыша ён наўрад ці знойдзе... І калі на скрыжаванні дарог ім трэба было разыходзіцца, Вадзім раптам спыніў сябра і, хвалюючыся, сказаў:

— Даруй, Міця. Больш ніколі гэтага не будзе...

**Пятро Рунец**
з кнігі «Заламаны ражок»

1. Скажыце, ці правільна зрабіў Вадзім, што не прызнаўся да сваёй віны на ўроку? А як паступіў Міця?
2. Раскажыце пра перажыванні Вадзіма.
3. У чым павінна заключацца сапраўднае сяброўства? Дайце прыклады са свайго жыцця.
4. Напішыце словы блізкія па значэнні да слоў: таварыш, удзячнасць, смеласць, хвалявацца, дружыць.

**ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ.**

Новых сяброў набывай, але і старых не забывай.

Той не можа быць другам, хто ў бядзе абыдзе кругам.

Сябра за грошы не купіш.

Старую рэч на новую змяняй ці хоць за плот кідай, старога сябра на новага не мяняй.

**БІЯГРАФІЧНЫЯ ДАВЕДКІ**

Пятро Рунец. — Сучасны беларускі празаік, нарадзіўся ў 1911 годзе ў сялянскай сям'і. Першыя апавяданні для дзяцей былі надрукаваны ў 1937 годзе. За апошнія гады празаік выдаў кніжкі дзіцячых апавяданняў: «У веснавыя дні», «Бярозавы конь» і «Гіпсавая масыніўка».

# Фестын БГКТ


Даклад чытае Анатоль Севастыянюк.

Кожны аддзел Беларускага таварыства адзначае ўрачыстым фестынам 50-ую гадавіну Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. На Сакольшчыне адбыўся ён 17-га верасня ў Гуранах на пляцы новапабудаванага памяшкання прэзідыума ГРН. Вялікі пляц прэзідыума ўпрыгожаны высокімі бярозкамі і брамай, на якой віднее надпіс: «Вітаем усіх прысутных на беларускім фестыне». На сярэдзіне пляцу пабудавана танцавальная пляцоўка з падвышэннем для аркестра, а пры сцяне будучага памяшкання прэзідыума зроблена правізарычная сцэна, бакавымі заслонамі якой былі саматужна тканыя народныя вясковыя радзюжкі. У Гураны сабралася многа людзей, асабліва моладзі, якая прыбыла нават з даволі адлеглых вёсак.

Беларускі фестын удастоілі сваёй прысутнасцю і гэтым самым надалі яму высокі ранг прадстаўнікі павятовых улад: сакратар Павятовага камітэта ПАРП — Анатоль Цішэўскі, старшыня прэзідыума Павятовай рады нарадовай Вячэслаў Унучка, намеснік каменданта МО Уладзімір Бельскі, прадстаўнік ВКР — Віктар Цюрусь, старшыня аддзела БГКТ Аляксандр Рафаловіч і члены праўлення — Мікалай Мікуць і Сяргей Аверчук. ГП БГКТ рэпрэзентавалі — Міхась Хмялеўскі і Мікола Лобач.

Фестын адкрыў прывітальным словам старшыня мясцовай ГРН Мікалай Куклік.

Для прачытання даклада аб значэнні Вялікага Кастрычніка папрасіў ён інструктара ГП на Сакольскі павет Анатоля Севастыянюка.

Другім пунктам фестыну была мастацкая самадзейнасць. На яе скलаліся: выступленні на беларускай мове дэкламатараў — старшакласнікаў Гуранскай школы і п'еса Юркі Геніюша «Зямля» ў выкананні моладзі з Піражкоў.

Добры акцэнт беларускай мовы, высокі ўзровень ігры піражкоўскіх аматараў выклікалі задавальненне ў прысутных.

У 16 гадзін пачалася забава пад гукі музыкі таленавітых крынкаўскіх музыкантаў. Працягвалася яна далёка за поўнач. У гэты дзень вялікім поспехам карыстаўся спецыяльна арганізаваны тут буфет.

Падчас традыцыйнай лямпкі віна арганізаванага для гасцей і мясцовага актыву выступалі з прамовамі: старшыня аддзела БГКТ Аляксандр Рафаловіч, старшыня прэзідыума Павятовай рады нарадовай Вячэслаў Унучка і сакратар партыйнай арганізацыі ў Гуранах Яўген Часновіч. Гаварылі яны аб патрэбе большага супрацоўніцтва БГКТ з усімі арганізацыямі, якія існуюць на вёсцы. За ахвярную працу ў час падрыхтоўкі фестыну для мясцовага актыву, які ўзначальваўся кіраўніком школы Янкам Аляксеюком і Аляксандрам Карповічам злажыў падзяку Анатоль Севастыянюк.

Тэкст і фота М. Х.


Прэзідыум фестыну.


Сцэна з п'есы «Зямля».


Удзельнікі фестыну. Не толькі дарослыя прышлі з суседніх вёсак. Многа было і дзяцей з суседніх школ.

# У БАЯХ КРЫВАВЫХ

(Працяг са стар. 1)

шы кулямёты. Стэп пакрыўся трупамі людзей і коней. Маментаўцы павярнулі назад. Але зараз зноў кінуліся ў атаку. Дзве гадзіны без перапынку адбівалі мы атаку за атакай. Урэшце нашым вайскам не хапіла патронаў. З усіх рот званілі ў штаб: давай боепрыпасы! Давай патроны! А іх не было. Сталася найгоршае, што можа здарыцца на вайне, калі салдат застаецца з голымі рукамі. Маментаўскія коннікі рубалі нашых, як зайцаў. Узнялася паніка. Наш камандзір схапіў два наганы ў рукі і закрычаў.

— Спасайцеся, братцы, хто як можа!

Я выскачыў са штаба. На вуліцы напаткаў нейкага мужыка з возам. Наганам спыніў яго, адрэзаў каня ад вужваў, і не скідаючы хамута паімчаўся, як вецер. І гэта мяне спасло.

Мы ўцякалі звыш 70 вёрст — аж за раку Данец. На зборным пункце ў станіцы Мецякінская камандванне далічылася ўсяго ледзь 100 чалавек. Тыдзень часу мы адпачывалі. Прышло папаўненне і зноў мы накіраваліся на станцыю Правільна. У яры, дзе адбіваліся нашы першым разам, не можна было ступіць, каб не наткнуцца на трупа. Аддзельна ляжалі галовы і рукі, аддзельна тулавішчы, разрубленыя твары, застыўшыя мазгі. Хто гэта пабачыў, не меў больш літасці для белых.

Баі завязваліся штодзень. На першы дзень Каляд адбілі мы Новачаркаск, а на трэці — Растоў. Белыя замацаваліся на другім беразе Дона — у Батайску. Амаль два месяцы мы там з імі змагаліся. Дон стаяў скованы ільдом. Штодзень чырвонаармейцы выходзілі ў наступленне, пакідалі дзесяткі трупаў на ільду, і ўсё дарэмна. Абароны белых не ўдалося пераадолець. Ды яшчэ на шостым тыдні вымушаны самі ўцякаць з Растова.

Атрад дзянікінскіх коннікаў падышоў у белы дзень пад растоўскую заставу. Падаліся за чырвоных. Яны і мы гаварылі па-руску. Вопратка аднолькавая. Бяры, разбірайся! Ціха, без выстралу, знялі яны з заставы нашых 12 вартавых і такім чынам адкрылі дарогу ў горад, дзе чырвонаармейцы нічога не спадзяваліся. Горад ператварыўся ў бойню. Стралялі да нас і гаражане — растоўскія чыноўнікі і буржуі. Мы ўрассыпную адступілі 40 вёрст. 2—3 дні збіралі свае сілы. Тут нам падаслалі коннікаў Будзённага. Цяпер пачуліся мы зусім бадзёра. Пайшлі адбіваць Растоў. Камандванне загадала: не шкадаваць нічога, што буржуйскае. Дык мы бралі помсту за расстрэльванне нашых салдат, вучылі контру цвёрдых правіл рэвалюцыі.

Ізноў былі баі. Па крывавых слядах белых палчышчаў дайшоў Хрысан Іванюк аж на бераг Чорнага мора.

— У Новарасійску белыя вяльможы, — расказвае заслужаны ветэран, — грузіліся на англійскія караблі. Каб вы бачылі, колькі дабра там асталося. На набярэжнай вецер насіў грошы, англійскія мундзіры па вуліцах валяліся, а чамаданы горбамі ляжалі. 65 тысяч дзянікінскіх кадэтаў там здалося нам. Генералы аднак уцяклі на караблях.

Пасля Хрысана Іванюка перакінулі на польскі фронт. Ваяваў з лігіянерамі Пілсудскага. З Вільна зноў накіравалі яго ў глыб Расіі. Пад Арынбургам асталіся яшчэ недабітыя часці Калчака. Дэмабілізаваўся ў 1921 годзе.

— Яшчэ адзін раз, у час акупацыі, прышлося мне паглядзець смерці ў вочы, — кажа Іванюк. — У 1944 годзе гітлераўцы хацелі мяне расстраляць. Удалося абмануць вартавога і ўцячы. А вось сын мой, Ваня, загінуў, у Нямеччыне загінуў.

**Віктар Рудчык**

# Краіна лясоў і мёду

Нашы старонкі можна назваць краінай лясоў і мёду. Спрадвечныя пушчы над Нарваю і Супраслю павінны стацца нашым вялікім мёданосным багаццем. Кажам, што павінны, бо не так у нас ёсць, як гэта магло б быць. Зацікаўленне пчалярскай гаспадаркай у нашых вёсках намнога меншае, чым у іншых ваколіцах, дзе няма такіх буйных лясных ваколіц, але ёсць шмат пасекаў і мёду.

У разуменні многіх нашых людзей пчаляр з'яўляецца кімсьці падобным да знахара, які перадае свае «таямніцы» з пакалення на пакаленне. Тым часам пчалярства можна навучыцца гэтаксама, як і кожнай іншай прафесіі, спецыяльнасці. Патрэбна крыху ўпартасці, цікавасці да кніжак і ўласнага дасведчання.

У Беластоцкім ваяводстве розныя фірмы закупляюць у сярэднім каля шасцісот тон мёду ў год. Як даведваемся, у Беластоцкім павеце закуплена сёлета фірмай «Вітаміна» ўсяго каля дзевяці тон мёду, у Сакольскім павеце — каля пяці тон, трохі больш у Бельскім павеце, калі не лічыць пчаляроў з Гайнаўшчыны, што прывозяць прадаваць свой мёд у Бельск. Словам, з нашай лясной і здавалася б мёданоснай краіны закуплена не больш, як пару дзесяткаў тон мёду — у параўнанні да сотняў тон мёду, што закуплена ў іншых паветах, дзе няма ні такіх лясоў, ні лугоў. Аб чым гэта сведчыць? Сведчыць гэта аб надта нізкім узроўні нашай пчалярскай, а як жа даходнай гаспадаркі; сведчыць гэта аб нашых вялікіх магчымасцях, якіх не выкарыстоўваем.

У такіх лясных мясцовасцях, як Каралёў Мост, Зубкі, Валілы ў Беластоцкім павеце налічана не больш, як каля шасцісот вулляў, якія мае каля 120 гаспадароў. Падобная сітуацыя і ў Сакольскім павеце, у такіх тыпова лясных ваколіцах, як Гураны, Талькоўшчына, Сакалда. От, для прыкладу, Сакалда знаходзіцца ў самым сэрцы дрымучай Супраскай пушчы, пасярод раздольных лугоў па-ятвяжску званай рэчкі Сакалды. Тут рай пчолам і... пчалярам. Аднак, аказваецца, у ваколіцы Сакалды налічана менш, чым дзвесце вулляў аж у 33 гаспадароў. Выходзіць па пяць-шэсць вулляў на аднаго сакалдоўскага пчаляра. Ці ж гэта не дзіўна — ці ж гэта не марнацыя магчымасцей паляпшэння свайго дабрабыту? Мёд, як ведаем, мае сваю цану, немалую цану.

Тым часам у іншых паветах Беластоцкага ваяводства, дзе здавалася б многа горшыя ўмовы да пчалярства, налічваецца каля 80-ці тысяч вулляў, а кожны вулей дае ў год у сярэднім каля дзесяці кілаграмаў мёду.

Будучы ў Ваяводскім аб'яднанні пчаляроў у Беластоку давялося мне пачуць размову аднаго пчаляра з горада Беластока, які выбіраецца закласці пасеку ў Сідры за Саколкаю. Гэты пчаляр не лічыцца з коштамі даезду да далёкай Сідры, яму аплацяцца гэтыя даезды. Ён даведаўся, што ў ваколіцы Сідры ёсць надта добрыя, мёданосныя мясціны. Гаварыў ён яшчэ і аб Валілах, дзе таксама мае намер закласці пасеку, карыстаючы з таго, што цяпер няма падаткаў ад пасекаў. Слухаючы яго падлікаў і рахункаў зрабілася мне неяк крыўдна, што нашы людзі чамусьці не ўмеюць — ці не хочуць? — лічыць, ды рахаваць. Робяць гэта за іх іншыя — людзі не звязаныя з сельскай гаспадаркай і яе развіццём.

С. Я.

**P.S. — Надлясніцтвы Беластоцкага ваяводства маюць свае пасекі ў лясах, штосьці больш чым дзве тысячы вулляў. І, вядома, — значныя дадатковыя даходы.**




Вядома, што ў нашым спецыфічным вясковым асяроддзі разрозненне «сваечужыя» фармавалася пад уплывам веравызнанняў: праваслаўя і каталіцызму. Веравызнанне фармавала таксама розныя рысы народнай, вясковай культуры, аб чым пісалі мы ўжо ў гэтым месцы, а таксама абумоўлівала пэўную розніцу гістарычных лёсаў абедзвюх веравызнаўчых груп. Таму менавіта цікавым з'яўляецца жыццё двуверавызнаўчых вёсак, у якіх сустракаюцца з сабою некаторыя рысы характэрныя для ўсходняй і заходняй славяншчыны.

Тэарэтычна магчымыя тут дзве сітуацыі: або рысы характэрныя для паасобных веравызнаўчых груп залагоджваюцца, заціраюцца, і вёска складае адну культурна-бытавую цэласць, або розніцы гэтыя існуюць, і тады маем у адной вёсцы фактычна дзве вясковыя супольнасці.

Другую з пералічаных сітуацый маем на Беласточчыне, здаецца, толькі ў адной вёсцы, у вёсцы Іванкі-Рагазы, (Гайнаўскі павет), дзе да нядаўна існавалі два солтысы. Вёска гэтая аднак падзелена не толькі веравызнаўча, падзелена яна на дзве каставыя групы: шляхту і сялян. У вёсках сялянскіх тым часам веравызнаўчыя разрозненні сціраюцца на кошт больш-менш адналітай вясковай грамадскасці.

Мажа найбольш выразна можна гэта ўбачыць на прыкладзе ялоўскага праваслаўнага прыхода. Вёскі гэтага прыхода двуверавызнаўчыя. Праваслаўныя адзначаюцца тут значна большай рэлігійнасцю, чымсьці ў суседніх веравызнаўча аднalітых прыходах. Нічога тады дзіўнага, што не гледзячы на ўбогія, пясчаныя палоскі тутэйшых сялян, праваслаўны святар у Ялоўцы пабудаваў у апошнія гады багатую, прыгожую царкву. Праваслаўныя сяляне некаторых тутэйшых вёсак не толькі ўражлівыя на тое, каб не ўступіць у рэлігійнасці сялянам-католікам, што пераймаюць ад католікаў некаторыя невядомыя нідзе ў праваслаўных асяроддзях рэлігійныя абрады. Так, напрыклад, у вёсцы Вейкі не без здзіўлення прышлося мне сцвердзіць, што праваслаўныя жыхары вёскі адпраўляюць у след за католікамі т.зв. «маёвыя багаслужэнні». Розніца толькі ў тым, што адны спяваюць рэлігійныя песні па-польску, а другія — па-руску. Супольны абедзвюм веравызнаўчым групам вёскі Вейкі іншы абрад, які тут называецца «свяча» — багаты песнямі і супольным пачастункам з водкаю і віном.

Падобныя справы з сялянамі-католікамі ў двуверавызнаўчых вёсках. Захавалі яны значна больш народнай беларускай абрадавасці, а таксама ў большай меры карыстаюцца мясцовымі беларускімі дыялектамі, чымсьці сяляне ў вёсках выключна каталіцкіх. Так, напрыклад, у Вейках у католікаў, так як і ў праваслаўных, захавалася яшчэ багатая вясельная абрадавасць, з пячэннем каравая, з народнымі прыпеўкамі — з усім, што даўно загінула ў выключна каталіцкіх вёсках.

Перад прыезджым жыхары двуверавызнаўчых вёсак найчасцей любяць падкрэсліваць добрае сужыццё абедзвюх веравызнаўчых груп. Можна тут часта пачуць сцверджанне, якое пачуў я ад старэйшай жанчыны ў Ялоўцы. На маё пытанне, ці ў асадзе больш католікаў, ці праваслаўных, жанчына адказала:

— У нас больш-менш напалам.

І чым хутчэй дадала:

— Але ў нас няма аніякай розніцы, ці «рускі», ці «польскі» — усё роўна. У нас нават ксёндз і той з папом жыве дружна: разам п'юць гарэлку і разам у карты гуляюць.

**Ул. Паўлючук**

## БРАТЫ-СУСЕДЗІ

# ЗАХАПЛЕННЕ ДАСЯГНЕННЯМІ

Гісторыя знаёмства работнікаў мяснога промыслу з Беластока і з суседніх вобласцей БССР уласціва кажучы яшчэ і не з'яўляецца гісторыяй. Першыя кантакты завязаліся ў лютым г.г., калі ў беластоцкім мясакамбінаце прабывала дэлегацыя з мясакамбінатаў Беларусі. Затым у Лідзе, Слоніме і Ваўкавыску пабывалі прадстаўнікі беластоцкага мяснога промыслу. У склад дэлегацыі, між іншым, уваходзілі: дырэктар мясакамбіната ў Беластоку **Ежы Ядвішчак** і намеснік дырэктара д/с прадукцыі **Эдвард Садоўскі.** Першыя сувязі гэта яшчэ не гісторыя, але гэтыя першыя кантакты паказалі, наколькі карысны такога тыпу абмен вопытам і што першыя сувязі ў хуткім часе сапраўды будуць часцейшымі і войдуць у гісторыю.

Размову аб пабыўцы беластоцкай дэлегацыі ў БССР правёў я з успамянутымі дырэктарамі Е. Ядвішчакам і Э. Садоўскім.

На першым месцы згодна з просьбай маіх субяседнікаў трэба адзначыць **надзвычайную сардэчнасць да гасцей з Польшчы.**

— Каб расказаць аб сардэчнасці і гасціннасці, — гаворыць Э. Садоўскі, — у мяне не хапае слоў. Уявіце сабе, што віталі нас з кветкамі і адкрытай душой, аддалі на час нашай пабыўкі ўсё, што даецца найлепшым гасцям.

— Пакуль калега Э. Садоўскі пачне расказваць аб тым, што мы там бачылі, — уключаецца дыр. Е. Ядвішчак, — не магу не сказаць аб тым, што мы наогул бачылі. І так, захапляліся Мінскам. Аглядалі крамы з мясам і, міма таго, што гэта было ў нядзелю, калі найбольш людзей, нідзе не было чаргі па мяса. Я ў жыцці не бачыў так вялікага выбару рыб, як гэта назіраў у суседзяў. Ды і шмат іншых спраў мне вельмі спадабалася.

Дырэктар Ядвішчак мусіць на некалькі мінут адыйсці, а мы астаемся ўдваіх. Усё, што расказвае Э. Садоўскі, і цікавае, і захапляючае. Стараюся вылавіць моманты, якія асабліва зацікавілі нашых спецыялістаў. Агульна іх удакладніць цяжка. Кожны беларускі мясакамбінат, які яны наведалі, мае сваю спецыфіку.

— Некалькі слоў аб **Лідзе.** Тут мясакамбінат меншы, чым наш, але многія развязкі нам спадабаліся. Напрыклад, падаванне сыравіны да прадукцыі дробнага памолу на корм. У іх падаецца яе пры дапамозе трубаправоду, а ў нас давозіцца бочкамі, што менш гігіенічна і патрабуе больш працы. Менавіта думаем гэта ўвесці ў нас. Больш істотнай справай з'яўляецца метад, які прымяняецца пры перасылцы мяса ў халадзільнікі. У іх адразу на аддзяленні зарэзу адцінаецца галовы і ногі, а ў нас усё пасылаецца ў халадзільнік, што і не надта патрэбнае, а з другога боку займае ў халадзільніку многа месца (а пры нашых умовах — гэта асабліва важнае). Бачылі тут сканструяваны іхнімі спецыялістамі прылады да чышчэння з шэрсці галоў. Гэтыя прылады выручаюць людскую працу, што ў сваю чаргу дае ашчаднасці.

— А як у **Ваўкавыску?**

— Іменна. Тут мясакамбінат не толькі новы, але і сучасны. Відаць, што таварышы з-за рубяжа не шкадавалі грошай і «пасцягвалі» навінкі мяснога промыслу з цэлага свету. Але такі завод, так запраектаваны можа быць сучас-



Удзельнікі беластоцкай дэлегацыі ля кургана ў Лідзе.

# Малы партрэт ўражлівага чалавека

Мой герой з'яўляецца чалавекам. Мой герой любіць чалавека. Мой герой уражлівы на ўсё, што чалавечае. Таму выбрала героем маёй замалёўкі вось гэтай газетнай Анну Сулаўко — выпрабаванага і заслужанага (Залаты крыж і многіх іншых медаляў) дзеяча.

Зараз кіруе яна Польскім чырвоным крыжам у ваяводстве. Кіруе ім ужо 12 год безупынна і непарыўна. Ведаюць яе ўсе, хто патрабуе дапамогі і цёплага слова. А гэта ж так важнае ў жыцці! То Анна кажа, што чалавек чалавеку патрэбен, што чалавек чалавеку братам. Дапамога хворым і нешчаслівым — гэта жыццёвы дэвіз майго героя.

Помню, паехалі мы неяк у тэрэн. Дарога вяла праз вёску Рыбалы, што ў Бельскім павеце. А там яна Анна Сулаўко мае сваю падапечную — старую хворую жанчыну. Тая ляжала ў скамячанай пасцелі ў хаце з кроснамі, на якіх яе ўжо 70-цігадовая дачка, нешта ткала. Тады, гледзячы на карціну перад маімі вачамі, я ўсхвалявалася і зусім не пасаромелася таго. Жанчына з пасцелі — самотная, хворая клікала: — Анечка, Аня, дайце вашу руку, я пацалую, вы наша надзея. Старая жанчына з Рыбал жыве яшчэ. І зараз дзякуючы Анне Сулаўко ў апошні час яе ўзялі ў бельскі шпіталь, бо надта цяжка было ўжо яе старой дачцы. Мо старая жанчына адпачне, умелыя рукі медсёстраў прывядуць яе ў парадак. Няважна, што яна і так памрэ. Важна, што паміраць трэба таксама не абы як.

Я дала прыклад адзін з дзейнасці, гуманітарнай дзейнасці чалавека, дзейнасці ў нас мала відочнай, мала апісваемай і для многіх сарамлівай. Фактам аднак застаецца тое, што былі і ёсць людзі старыя, хворыя, патрабуючыя, якіх слова добрае і чулае надзеяй натхняе ў цяжкія хвіліны. Таму на прыкладзе Анны Сулаўко пішу пахвалу такіх людзей. Мой герой мне блізкі па ўласным таксама перажываннням. Ён выхадца з беластоцкай вёскі, з беластоцкай мовы, тутэйшых абычаяў, у пяць год пакінутая беззямельным бацькам сіратой, выкінутая з маці і дзяцьмі з хаты зімою на снег, у 1923 г.

Плывуць гады ва ўспамінах невясёлых, але моцных. Гады, калі радзілася новая Айчына, у якой было месца і праца ўражлівай Анне.

Яшчэ адзін маленькі зялёны кубачак кавы п'ем з Аннай. «Я таму маю сентымент для журналістаў, бо і мой муж пісаў. Колькі ён пісаў, начамі, ён арганізаваў у Беластоку прэсу. А пра мяне... ці варта?»

— Пазвольце, — кажу, — мне цешыцца, што пра вас напішу, без вялікіх слоў, але з малой хвілінай задумы над чалавекам увогуле. Так патрэбны ў кожным жыцці ўражлівыя людзі, згодна з вашым жа жыццёвым дэвізам: чалавек чалавеку братам.

**Вера Леўчук**

---

ным праз дзесятак год. Перад усім адзначаецца ён аўтаматызацыяй.

— Не забудзьце напісаць аб «пельменях» (марожаныя пірагі), — уключаецца зноў у размову дырэктар. — Мы прабавалі ў Ваўкавыску — дасканалыя. Думаю, што беластачане, не адхваліліся б, калі б хто-небудзь у нас заняўся прадукцыяй пельменяў. Мы, на жаль, не можам, бо няма дзе, але гэтую справу я ўжо пераказаў адпаведным уладам.

Таварышы падавалі шмат спраў, якіх трэба было б навучыцца ад суседзяў. У сваю чаргу ў часе пабыўкі беларускай дэлегацыі ў Беластоку асабліва зацікаўленне выклікала прадукцыя кансерваў і іншых вырабаў.

— Таварыш дырэктар, што вы думаеце аб абмене думкамі і вопытам на будучыню?

— Мы правялі першыя сустрэчы, і гэта перад усім былі мы, кіраўнікі. Кожны з нас ужо ведае, чаго адзін у другога хацеў бы павучыцца. Мы вам расказалі, на колькі вялікі спісак спраў, якіх прыдалося б павучыцца ў суседзяў. Таварышы з БССР таксама гаварылі нам, што ахвотна выслалі б да нас сваіх спецыялістаў. Цяпер трэба будзе дагаварыцца і выслаць на нейкі час спецыялістаў, і адсюль пачнуцца непасрэдныя ўзаемныя карысці.

Ёсць многа, вельмі многа і іншых аспектаў візіта, якіх нельга вымераць лікамі, грашыма, эканамічнымі паказчыкамі, а імя іх: **братэрства і дружба.**

**А. Кар.**

---

Службовыя справы завялі мяне ў Храбалы на Бельшчыне.

Надвор'е было сонечнае, цёплае. З садоў вецер нёс вінны пах яблык, недзе бубніла малацілка, а вакол кожны гародчык пры хаце, кожны нават лісток прыпамінаў аб надыходзячай восені.

Такі восеньскі ранак вельмі часта распалагае людзей да пагоднага настрою, калі незнаёмыя людзі ўжо ў першыя хвіліны спаткання здольны на праявы шчырасці.

У такіх вось умовах напаткала я цётку Ганну Дамброўскую. На вузкім, але доўгім ганку ля сваёй немаладой ужо хаты цётка Ганна лушчыла гарох.

Слова за словам завязалася размова. Цётка выясніла, што атава ў іх ужо высушана і звезена, некаторыя людзі малоцяць, а яна вось, выбраўшы вольную хвілінку, узялася лушчыць гарох.

Цётка Ганна, даведаўшыся хто я і адкуль, пачаставала мяне грушамі і, здавалася, ні з таго, ні з сяго (а можа гэта быў працяг яе самотных думак, якія перарваў мой прыход) сказала:

# ВЫПАДКОВЫЯ ЗНАЁМСТВЫ

— Цяпер жыццё куды лягчэйшае, чым калісь. Усё машынамі робяць. Вось хоцьбы атава ці сенакосы. Тут ля нас уздоўж ракі лугоў многа. Аж з Пухлоў, Давыдаў, Паўлаў прыязджаюць сюды па сена. Тут іх надзелы. Прыедуць трактарам з прычэпам, за дзень высушаць і адразу забіраюць. А вось калісь, як я яшчэ малая была, дык людзі з далёкіх вёсак тыднямі ў нас сена сушылі. Раздзяваліся, пакідалі адзежу на беразе, а самі плылі чаўнамі па рацэ. Пераносілі сена рэзкамі на другі бок і доўга сушылі. А цяпер толькі жыць.

У суседняй хаце, якая стаіць на адным падворку з цётчынай, бразнулі дзверы і на ганак выйшла маладая жанчына.

Цётка Ганна перакінулася з маладухай парай слоў і зноў да мяне:

— Гэта мая сынавая. А вось хоцьбы і ў іх хаце. Зайдзіце, паглядзіце. Як усё па-новаму, вада ёсць, ванна.

Карыстаюся запрашэннем і ўваходжу. Не часта



можна ўбачыць у нашых вёсках хаты «з выгадамі». Трапіла, як на гасця, не зусім у час. Маладая гаспадыня сцірала. У кутку кухні, прыспасобленым пад лазенку, бурчала сціральная машына, у ванне ляжала перасціраная ўжо бялізна, а гаспадыня завіхалася ля крана з бягучай вадой над умывалкай.

На маё захапленне ўсёй гэтай, пакуль яшчэ «гарадской» тэхнікай гаспадыня — Марыся Дамброўская — сказала:

— Гэта што? У нашай вёсцы цяпер некаторыя, хто новую хату стаўляе, нават цэнтральнае аграванне робяць. У нас ужо не было як, бо хата старая. Але стараемся неяк наладжваць сабе жыццё так, каб было не горш, як у горадзе.

З далейшай нашай размовы выяснілася, што Марыся Дамброўская з'яўляецца старшынёй гуртка вясковых гаспадынь. У яе хаце адбываліся заняткі на курсе крою і шыцця і некалькі разоў на розных курсах з галіны варэння.

Пані Марыся зусім слушна лічыць сябе сучаснай гаспадыняй і стараецца выкарыстоўваць у сваёй гаспадарцы ўсе навейшыя сродкі аблягчэння працы жанчыны. Яна навязала кантакт з варшаўскім бюро «Апінія» і штомесяц запаўняе і высылае адпаведную анкету, у якой выказвае свае думкі аб якасці тых ці іншых тавараў. Такім чынам наша маладая гаспадыня ацэньвала прысланы для ацэнкі з Варшавы макарон, фруктовыя нектары і іншыя рэчы. Ад лютага пані Марыся карыстаецца прысланым на пробу халадзільнікам, аб якім таксама часта піша ў Варшаву. Халадзільнік аказаўся вельмі добры і мая субяседніца вырашыла купіць яго на раты.

Калі я запрапанавала зрабіць гаспадыні здымак, каб потым можна было далучыць яго да артыкула, яна горача запратэставала, заявіўшы, што лічыць дасягненні свайго гуртка яшчэ даволі скромнымі і таму няма яшчэ за што паказваць яе ў газеце.

— Вось прыедзьце да нас будучай вясною, — запрашае мяне пані Марыся, — тады можна будзе больш расказаць аб нашым гуртку.

Ахвотна прымаю запрашэнне і развітваюся. А сама з прыемнасцю яшчэ раз кідаю вокам на вясковую хату, куды ўжо ўсё часцей заглядаюць здабычы 20 стагоддзя.

**Яніна Чэрнякевіч**

---




## НАШЭСЦЕ ТАТАРАЎ НА БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ

У часе, калі ўся Кіеўская Русь была раздроблена на малыя і слабыя ўдзельныя княствы, якія часта варагавалі паміж сабою, на ўсходзе ад яе паўстала магутная і ваяўнічая дзяржава татара-манголаў. Яе ўладары — ханы — накіроўвалі свае захопніцкія імкненні на славянскія і іншыя еўрапейскія краіны.

Перад пагражаючай небяспекай удзельныя князі Кіеўскай Русі аб'ядналі свае вайсковыя сілы, каб запабегчы нашэсцю. Аднак у бітве над ракою Калкай у 1223 годзе татара-манголы разбілі рускія войскі. У гэтай бітве таксама прымалі ўдзел палкі з княстваў, што былі на землях крывічоў і дрыгавічоў. Пасля перамогі на рацэ Калцы татара-мангольскія орды сталі часцей нападаць на ўсходнеславянскія землі і пасоўвацца ў іх глыб.

У 1240 годзе літоўскі князь Міндаўг і войскі з суседніх з Літвою беларускіх зямель разбілі ля сяла Крутагор'е пад Мінскам орды хана Кайдана і спынілі яго паход на захад.

У выніку нашэсцяў татара-мангольскіх ордаў амаль усе княствы Кіеўскай Русі, за выключэннем заходніх і Ноўгарада, былі разбіты, абрабаваны і запалонены татарамі.

Татара-мангольскія захопнікі ў запалоненых землях знішчалі або бралі ў няволю амаль усіх людзей, грабілі дабро і дабытак, а затым палілі і разбуралі сёлы і гарады. Пасля іх праходу заставаліся толькі руіны і папялішчы. На доўгі час загамоўвалася развіццё сельскай гаспадаркі, рамяства і гандлю. Насельніцтва, якое пазбегла смерці або палону, мусіла даваць захопнікам вялікія даніны.

Былі знішчаны або зрабаваны найвыдатнейшыя помнікі будаўніцтва, мастацтва і літаратуры.

Найбольшы цяжар татара-мангольскага нашэсця выпаў на паўднёвыя і паўночна-ўсходнія землі Кіеўскай Русі. Жыхары гэтых зямель гераічна бараніліся і коштам аграмадных намаганняў і ахвяраў аслабілі сілы захопнікаў. Яны ўжо не здолелі пасоўвацца далей на захад. Іншыя славянскія землі і краіны Еўропы былі ўратаваны ад зруйнавання і спусташэнняў.

Кіеўская Русь — агульная дзяржава ўсходніх славян — спыніла сваё існаванне. Аднак у ёй былі пакладзены асновы гаспадарчага і культурнага развіцця ў наступныя стагоддзі трох братніх народаў: беларускага, рускага і ўкраінскага.

Беларускія землі не былі запалонены татара-манголамі. Аднак іх паасобныя атрады нападалі на гарады і вёскі, грабілі іх і палілі. Пра гэтыя напады ў народнай песні гаворыцца:

— А я быў на пабоішчы,
Над шырокай ракой каля Клецііўска!
А там пасцель пасцель сцелена ды галовамі,
Усё галовамі малайцоўскімі,
А там кроў плыве ды дунай-ракой,
А ваўкі грызуць белы костачкі.

*ПЫТАННІ:*

*1. Што было прычынай запалавання княстваў Кіеўскай Русі татара-манголамі?*

*2. Як выглядалі землі Кіеўскай Русі пасля нашэсця татара-манголаў?*

---

(Працяг са стар. 1)

# ДЗЕНЬ МІЛІЦЫЯНЕРА

Забрала дзеці дамоў. Міліцыя занялася пошукамі бацькі. Калі не захоча плаціць ён аліментаў, пойдзе на прымусовую працу, а заработак яго будуць прысылаць для дзяцей.

Так запаўняецца будні дзень міліцыянера. Камендант расказвае яшчэ пра злодзеяў школьнага ўзросту. Вось пра такога Жэніка Беглюка (14 год) з Нараўкі, што краў бензін з самаходаў, пра Ваську Грыгарука (16 год), які ўкраў ровар, пра Толіка Міруця з Нараўкі, які абкрадаў памяшканні.

— Перш за ўсё вінаваты тут бацькі, — кажа камендант. — Вось Міруць збіў свайго сына, Толіка, за тое, што... прызнаўся ён да пакражы некалькіх тысяч злотых.

На пастарунак прыйшла нейкая жанчына. Плача, лямантуе, што сусед жыць не дае. Праз паўгадзіны прыбягае той жа сусед, і ён таксама лямантуе, што няма яму спакою ад суседаў.

— Гэта нашыя «старыя знаёмыя», — кажа камендант. — І бяры разбірайся. Сам Саламон іх не рассудзіць. А бывае і так, што бацькі прыходзяць са скаргай на дзяцей.

Міліцыянер першы ідзе следам чужой бяды або лёгкадумнасці. І так штодзень.

**Віктар Рудчык**

I ўсё ж адбыўся іменна такі неверагодны выпадак. Каталіцкі свяшчэннік быў, бадай, адзіным чужым чалавекам, які мог пранікнуць праз шчыльнае кальцо варты вакол Жаклін Кенедзі. Знешняя ахова магла падумаць, што ўдава-каталічка паслала па яго; бастонскія ірландцы, якія былі бліжэй за ўсіх да яе, аднесліся б да яго з павагай. Іменна так і здарылася, і ў выніку адбыўся эпізод, які атрымаў назву «гісторыя са свяшчэннікам». Пазней памочнікі прэзідэнта Кен О'Донел, Лары О' Брайен і Дэйв Паўэрс усумніліся ў тым, што ён быў сапраўдным свяшчэннікам.

Але ён быў самым сапраўдным. Айцец Томас Кэйн быў настаяцелем дамініканскага манастыра пры каталіцкім універсітэце Даласа, за шэсць міль ад Паркленскага шпіталя. Гэта быў эксцэнтрычны чалавек. Энергічны, у акулярах, з цыгарай у зубах, з радзеючымі сівымі валасамі і шыяй індыка, айцец Кэйн быў нават у спакойныя дні чалавекам дрэнных манер. Ён шмат гаварыў, часам бязладна, узмоцнена жэстыкулюючы доўгімі рукамі, і пастаянна шарахаўся ад імпульсіўнай дзейнасці да прыступаў дакораў сумлення. Калі рэктар універсітэта з'явіўся да яго ў манастыр і паведаміў, што ў прэзідэнта стралялі, ім завалодала адна думка — паранен прэзідэнт-каталік, яго аднаверац. Той факт, што іншыя свяшчэннікі бліжэй да яго, не меў значэння, бо ён валодаў сім-тым, чаго не было ў іх.

У зялёным мяшочку ў сваім кабінеце ён захоўваў багата ўпрыгожанае распяцце, унутры якога быў схаваны маленькі асколак сапраўднага крыжа, загорнуты ў пластык. Змяніўшы расу і каўнерык, айцец Кэйн паклаў мяшочак




у кішэню і накіраваўся ў шпіталь. Ён пад'ехаў на машыне да самага дома. Пазней ён прызнаў, што толькі цудам не быў забіты. Ён пакінуў машыну сярод беспарадкава пастаўленых аўтамабіляў і праскочыў міма даласкіх паліцэйскіх, міма аховы на чале з Роем Келерманам, двух генералаў у форме. Па дарозе ён пачуў, як хтосьці сказаў, што прэзідэнт памёр.

Пані Кенедзі ўзняла вочы і ўбачыла, што свяшчэннік нахіліўся над ёй. Яго вочы дзіка блукалі.

«Калі ён памёр?»

«Я думаю, у машыне», — адказала яна з цяжкасцю.

Айцец Кэйн развязаў шнурок мяшочка.

«У мяне тут рэліквія — кавалачак сапраўднага крыжа».

Ён выцягнуў распяцце, не зусім разумеючы, у чым справа. Затым ён сказаў, што хоча аднесці распяцце прэзідэнту. Яна падумала, што, напэўна, гэта мае вельмі вялікае значэнне для гэтага чалавека і, калі ён хоча пакінуць распяцце ў Джэка, гэта вельмі кранае. О'Донел кіўнуў і свяшчэннік зайшоў. Але ён не пакінуў рэліквію. Ён проста абышоў вакол, урачыста размахваючы распяццем у паветры, над галовамі Вернона О'Ніла, сёстраў, санітараў, над труной.

О'Донел непрыкметна падышоў да свяшчэнніка. Аднак ад айца Кэйна не так лёгка было адчапіцца. Ён узбуджана прытанцоўваў вакол пані Кенедзі, яго адамаў яблык хадзіў хадуном.

Кэйн паціскаў яе руку, спрабаваў абняць, называючы яе па імю, гаварыў усялякія пяшчотныя словы і абяцаў напісаць ёй пісьмо. У той момант, калі Кен, Лары і Дэйв думалі, што яны заціснулі свяшчэнніка ў куток, ён вырваўся ад іх. Прашмыгнуўшы ў аперацыйную, ён пачаў прытанцоўваць вакол О'Ніла, выскачыў з пакоя, убачыў групу работнікаў шпіталя, што стаялі ля сцяны, і прымусіў іх чытаць малітву. Потым вярнуўся да пані Кенедзі і зноў схапіў яе руку. Яна вырвала яе.

«Калі ласка, айцец, пакіньце мяне ў спакоі».

На гэты раз О'Донел канчаткова выштурхнуў яго, і ён пайшоў, сціскаючы ў руках мяшочак. Праз перагародку яны чулі яго голас, які ліхаманкава мармытаў малітву. Яны думалі, што збавіліся ад яго, але ён быў побач і не думаў ісці.

### СКАНДАЛ У ШПІТАЛІ

Доўгі паліраваны гроб закрылі і паставілі на цялежку. Жаклін Кенедзі патушыла цыгарэту: яна нервавалася і нецярпліва азіралася навокал. Яна была гатова. Гаспадар пахавальнага бюро таксама. Паркленскі шпіталь, зрабіўшы ўсё магчымае, заняўся іншымі нескладнымі выпадкамі. І ўсё ж яны не рухаліся з месца. Дзверы аперацыйнай былі адчынены насцеж, гадзіннік, што вісеў на сцяне, паказваў, што яны знаходзіліся ў шпіталі ўжо паўтары гадзіны.

«Сяржант, чаму я не магу павезці мужа ў Вашынгтон?»

Бобу Дагеру было вядома, чаму, але ён не збіраўся пасвячаць яе. Усё, што здарылася, пераканала яго, што Далас — паршывы гарадок; яму, тэхасцу, было сорамна за яго. Астатнія таксама, не змаўляючыся, імкнуліся ўтаіць ад яе тое, што адбываецца. Гэта быў самы працяглы і шумны скандал за ўвесь дзень, ён бушаваў вакол яе паўтары гадзіны і ледзь не завяршыўся бойкай усяго за некалькі крокаў, і ўсё ж толькі ў Вашынгтоне яна даведалася аб прычыне такой працяглай затрымкі.

Рой Келерман першы з агентаў адчуў няладнае. Незадоўга да таго, як прывезлі гроб, Рой разам з доктарам Джорджам Бэрклі, асабістым урачом прэзідэнта, знаходзіўся ў пакоі медсястры, адкуль падтрымліваў тэлефонную сувязь з Белым домам. Раптам у пакой зайшоў бледны, вяснушчаты чалавек з бельмом на воку, без пінжака. Ён пацягнуўся да другога тэлефона і зняў трубку рэзкім рухам, як гангстэр у каўбойскім фільме.

«Гаворыць Эрл Роуз, — сказаў ён. — Тут учынена забойства. Мы не дазволім павезці цела, пакуль не будзе зроблена ўскрыццё».

Роуз быў медыцынскім экспертам Даласкай акругі, у шпіталі ў яго быў свой кабінет. Педантычны, з гонарам, ён любіў ківаць пальцам і гаварыць ментарскім тонам.

Як медыцынскі эксперт і чыноўнік Даласа, ён спалучаў у адной асобе медыка і юрыста. Ён мог з'явіцца неадольнай перашкодай, калі б пажадаў гэтага, і ён гэтага пажадаў. Для яго сітуацыя ў Паркленскім шпіталі была яснай і зусім недапушчальнай. У Даласе быў забіты чалавек. Іншыя людзі спрабавалі павезці цела, яўна наперакор тэхаскім законам. Яны парушалі правы, якія доктар Эрл Роуз быў закліканы абараняць. **(Працяг будзе)**




Піць ці не піць? Так пастаўленыя пытанні алкагалізму з'яўляюцца крайнімі. І, як кожны погляд крайні, мае ён сваіх абаронцаў і праціўнікаў.

Вядомым ёсць, што многія сродкі, прынятыя або спажытыя ў вялікіх дозах, могуць стацца атрутаю, напрыклад, дэстыляваная вада. А спажытая нават атрута ў адпаведнай дозе, напрыклад аршэняк, можа паслужыць карысна для арганізма.

Падобна выглядае справа і з алкаголем.

Усё залежыць толькі ад нас, ці алкаголь станецца атрутаю, ці адыграе часам карысную ролю. Зразумела, калі ён спажыты ў адпаведных дозах і ў адпаведным часе.

Чаму людзі п'юць і як п'юць — вось гэтая праблема была закранута на старонках «фаховых», лекарскіх часопісаў. Аўтар Кэмпінскі стараўся паказаць прычыны піцця і паасобныя групы людзей, якія п'юць.

Кожны наркотык, — гаворыць ён, — а таксама і алкаголь, змяняе самаадчуванне чалавека, выключае на нейкі час яго ад думак аб штодзённых турботах, дае хвіліну «шчаснага» забыцця.

Паводле яго, чалавек часта п'е таму: а) каб паставіць сябе на ногі. П'ецца тады мала. Да гэтай групы адносяцца людзі, якія пасля чаркі чуюцца больш сільнымі і свет выдаецца ім прыгажэйшым. Б) Да гэтай групы адносяцца тыя, якія маюць цяжкасці з кантактамі з людзьмі. Сярод іх многія маюць комплексныя непаўнацэннасці. Кантакт іх на штодзень з людзьмі даецца вельмі цяжка і часам ён задзёрлівы. Калі вып'е такі чалавек (вядома, нямнога), кантакт з людзьмі стаецца яму лёгкім, або значна лягчэйшым. В) Частка людзей п'е водку толькі таму, што ім здаецца, што пасля выпіцця робяцца яны героямі і свет належыць толькі да іх. Г) Але ёсць іншыя групы людзей, якія п'юць да ўпаду, гэтым самым нішчаць свой арганізм, якія пасля выпіцця дастаюць псіхозу і з'яўляюцца небяспечнымі і г.д.

Вывад з гэтага ўсяго такі, што невялікія дозы алкаголю здаровым людзям не зашкодзяць. Трэба ў піцці водкі мець розум і меру. Бо водка перш за ўсё для разумных людзей, якія не запіваюцца і гарэлачным запоем не атручваюць свайго арганізма.

(Я.Х.)

## Парасоны для торфу

Кожны год на цэлым свеце згарае мільёны тон складовага торфу. Барацьба з самазапальваннем — вельмі важная праблема. Савецкія вучоныя вядуць у гэтым напрамку даследы і ўжо, як здаецца, блізка вырашэнне гэтай справы. Удалося ім выясніць, што **асноўнай прычынай самазапальванны з'яўляецца кісларод,** які пранікае ўглыб адвалаў торфу.

Савецкія даследчыкі, каб закрыць доступ кіслароду, запрапанавалі зрабіць аслону з тарфяной пасты паводле апрацаванага імі рэцэпту. Яна не прапускае кіслароду, а ў час дажджу з'яўляецца добрым парасонам для торфу.

(а-ка)




**ТРАЎБ**

Сівы і Трампчынскі чакалі Віхра ў машыне, на выездзе з горада. Віхор спазняўся, Сівы, хвалюючыся, паглядваў на гадзіннік.

Урэшце, Віхор паказаўся з завулка: ён быў у акулярах, у модным рэглане, на кляпе пінжака значок члена нацысцкай партыі.

— Выбачайце, калі ласка, — сказаў ён, улазячы ў машыну, — у цэнтры была аблава. Едзем, ёсць размова.

Трампчынскі націснуў на акселератар, і машына рыўком рушыла з месца.

— Вось якая штука, — пачаў Віхор, — у нас ёсць два адрасы. Па гэтых адрасах жывуць фрыцы, якія непасрэдна будуць узрываць Кракаў.

— Прэлюдыя даволі цікавая, — сказаў Трампчынскі. — Калі ім трэба праломліваць чэрапы: сёння вечарам ці ноччу?

— Гэта саматужніцтва, — адказаў Віхор. — Тут завязваецца даволі цікавая камбінацыя, на яе стаўку рабіць нельга, але выкарыстаць мы павінны ўсе магчымасці, каб выратаваць горад. Адзін з гэтых двух эсэсаўцаў — сын забітага ў Гамбургу камуніста і расстралянай у канцлагеры камуністкі. Але аб гэтым ён не ведае. Сказаць яму аб гэтым можа толькі адзін чалавек — Траўб.

⁂

Пісьменнік спытаў Трампчынскага:

— Паслухайце, Юзэф, вы разумееце, з чым вы да мяне прышлі?

— Разумею.

— Уключыце радыё, я баюся мікрафонаў, хоць ведаю, што іх тут няма... Адкуль да вас паступілі гэтыя даныя?

— Гэта несур'ёзна, пане Траўб. Лепш тады адразу выклікайце гестапа.

— Я абяцаў памагаць вам — у бяспечных для мяне межах... Вытлумачце мне, чым я заслужыў гэты ваш пракляты, псўны, непатрэбны мне давер?

— Толькі адным: вы пісьменнік!

— А ці мала пісьменнікаў у Германіі?! Якога чорта вы прыліплі да мяне?!

— У Германіі мала пісьменнікаў. Адзін з іх — гэта вы. Тыя, апошнія, тыя не пісьменнікі. Яны проста нацысты, фашысты, сабакі.

— Мілы мой Тромб, — усміхнуўся Траўб, — я не змагу выканаць вашай просьбы. Я памагаў вам у той меры, у якой адчуваў сваю магчымасць дапамагчы вам. Далей пачынаецца паліцэйскі раман, а я пісаў псіхалагічныя драмы, настояныя на сексуальных праблемах. А з тых пор, як фюрэр вырашыў, што сексуальныя праблемы раскладаюць будучыню нацыі — яе моладзь, я пачаў пісаць нудныя газетныя карэспандэнцыі.

— Дарагі Траўб, я не пачну рысаваць альтэрнатыву вашай адмове. Гэта будзе вельмі страшна, калі вы адмовіцеся. Проста Кракаў стане попелам. І ўсё.

— Тромб, мілы, давайце з вамі разважаць лагічна: ну, прыду я да гэтага хлопца. Што я яму скажу? Мяне тут кожная сабака ведае, ён пазвоніць у гестапа, і заўтра ж мне стане вельмі балюча ў іх у камеры.

— Навошта ж так песімістычна? Не трэба так. Мы вам прапануем іншы план...

— Хто гэта «мы»?

— Мы — гэта антыфашысты.

— Ну, давайце, антыфашысты. Паслухаем ваш план. Для запісных кніжак.

— План просты. Вы былі ў Гамбургу ў час паўстання дваццаць другога года.

— Мейце на ўвазе, Тромб, што я быў супраць бацькі гэтага эсэсаўца. Я стаяў за Веймарскую рэспубліку. Я тады вельмі не любіў камуністаў. Я наогул не люблю камуністаў.

— Не будзем дэбатаваць. Вы з'яўляецеся да гэтага тыпа і ставіце толькі адно пытанне: ці не Ліба яго прозвішча? Вы, зразумела, будзеце ў форме. Ад таго, што ён вам адкажа, будзе залежаць усё далейшае.

— Ён мне адкажа, каб я ішоў да чортавай мацеры.

— Вы маёр а ён лейтэнант. Ён ніколі так не адкажа.

— Ну, дапусцім... Далей?

— Ён спытае, хто вы. Вы прадставіцеся яму. Вас, франтавога карэспандэнта, героя Іспаніі, Абісініі і Егіпта, ведаюць у арміі. Ён пачне гаварыць з вамі. А вы яго спытаеце толькі аб адным: ці не памятае ён свайго, вельмі да яго падобнага бацькі, аднаго з кіраўнікоў гамбургскага паўстання, вядомага нямецкага камуніста. Вы самі ўбачыце яго рэакцыю на вашы словы. Мы ўсё далейшае бярэм на сябе. Разумееце. Для вас апраўданне: вы хацелі даць у газету матэрыял аб тым, як сын ворага стаў героем вайны. Вы не выклічаце ніякіх падазрэнняў.

Усё далейшае было ў Віхра прадумана дакладна: за домам Ліба ўстанаўліваецца сочка. Тэлефона ў яго кватэры няма — ён жыве ў пяці мінутах ад казармы. Куды ён пойдзе і ці пойдзе наогул пасля размовы з Траўбам — гэта першае, што павінна было даць назіранне за яго домам. Калі ён цэлы дзень нікуды не будзе выходзіць, тады трэба прыступаць да другой стадыі аперацыі, якую Віхор браў на сябе. Калі ж ён пойдзе ў гестапа, Трампчынскі папярэджвае Траўба. А сам мяняе кватэру. Калі ж ён пойдзе да сябе ў штаб, тады пытанне астанецца адкрытым. Тады спатрэбіцца яшчэ адна сустрэча пісьменніка з Ліба, тады спатрэбіцца, каб Траўб тэрмінова напісаў аб ім захоплены матэрыял і пастараўся надрукаваць у сваёй газеце.

— Па-мойму, з гэтай задумы нічога не выйдзе, — сказаў Траўб. — Хоць тое, што вы мне расказалі, даволі цікавае і паспрабаваць можна. Добра, мілы мой прадстаўнік ніжэйшай расы, давайце паспрабуем выратаваць Кракаў супольна. Хоць паміраць будзе не сорамна.

— Заўтра я заеду за вамі, так?

# ТРЫБУНА чытачоў

## ПЛЯЦЁНКІ З ГАЙНАЎШЧЫНЫ



**Каробка і міска зробленыя А. Кульбацкім.**

На тэрыторыі грамадскіх рад Нараўкі і Семяноўкі «халупніцтвам» займаецца ў апошнім часе ўсё больш сялян. І так, вырабляюць яны між іншым пляцёнкі з кораня сасны, ядлоўца і ёлкі; кошыкі, талеркі, міскі, каробкі, карзінкі, падносы. Усё гэта скупляе Саюз саматужнікаў. У вёсцы Міклашэва каробкі і міскі робіць з кораня і саломы Аляксандр Кульбацкі. Пераняў ён вопыт ад Аляксандра Каліноўскага. Збанкі, міскі і падносы ўжо тры гады пляце з сасновага карэння жыхар з вёскі Лука (Гайнаўскі павет) Аляксандр Семаковіч. Спосаб рабіць міскі з кораня пераняў ад яго таксама лучанскі жыхар Антон Харкевіч. Варта пры гэтым дадаць, што вырабы лучанскіх саматужнікаў перад усім ідуць на экспарт за граніцу. Такія рэчы могуць выконваць толькі вопытныя майстры.

Тэкст і фота
**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

## САДАВОД

Амаль у кожнага плёскаўскага гаспадара ёсць невялікі садок. Гаспадары стараюцца завесці штораз то новыя віды дрэў. Адным з такіх гаспадароў з'яўляецца Сцяпан Каліноўскі. За тры гады ён вырасціў прыгожы садок з самымі лепшымі відамі дрэў. Асаблівасцю з'яўляюцца слівы на вярбе. У гэтым годзе дрэўцы першы раз заквітнелі вялікім, чырвоным квеццем і выдалі плады велічынёю яблыка. «Шчэпіць» дрэва ён сам. У будучыні Каліноўскі плануе выгадаваць на слівах чарэшні.

**Вераніка Леанюк**
Плёскі

— Відаць, заязджаць за мною не варта. Проста давайце мне адрас, паспрабую пачаць раман... А як яго я пазнаю?

Трампчынскі дастаў з кішэні фатаграфію і палажыў яе на стол.

— Вось, — сказаў ён, — запамінайце.

Траўб уважліва разгледзеў фатаграфію і ўздыхнуў:

— Эх вы, антыфашысты... Раней не маглі мне гэта паказаць? Я б згуляў партыю з нашымі фотакарэспандэнтамі. Папрасіў бы іх сфатаграфаваць хлопчыка, выдумаў бы гісторыю пра Гамбург.

— Колькі вам на гэта трэба часу?

— Хоць бы два дні.

— Дзень.

— Паспрабую. Тады сёння запрашу да сябе Ваксмана, ён добры хлопец. Загляньце да мяне заўтра вечарам. Хоць не. Не трэба да мяне заходзіць. Няхай нехта з вашых ідзе міма дому Ліба. Або сядзіць там недзе. Калі вашы людзі ўбачаць, што мой спадарожнік фатаграфуе гэтага эсэсаўца, калі яны ўбачаць, што я загаварыў з ім, няхай лічаць справу вырашанай.

— Дзякую, пісьменнік.

— Э, кіньце. За гэта не дзякуюць. Я гэта раблю сам для сябе. Не цешце сябе надзеяй, што вы мяне да гэтага прывялі. Да гэтага мяне прывёў фюрэр і мая фантазія. І потым усё роўна канец, дык хоць пажыць цікава — будзе што паглядзець у сваім апошнім кіно, якое паказваюць кожнаму перад канцом. Адна бяда: не ўсе ўмеюць яго глядзець.

— Дзякую, пісьменнік.

— Ды перастаньце вы! Ненавіджу ўдзячнасці.

(Працяг будзе)

## У ГОНАР 50-АЙ ГАДАВІНЫ ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА

Святкаванне гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі кожны год праходзіць з вялікай і цікавай праграмай. Жыхары ГРН у Юшкавым Грудзе сарганізавалі дарожны чын з нагоды 50-ціг оддзя Вялікага Кастрычніка. Чын быў на ўсіх дарогах грамады. Найбольш людзей працавала пры будове дарогі з Бандароў у Смальніцу. Хто быў фурманкаю, той вазіў пясок, а астатнія капалі равы і рабілі насып. Работа праводзілася ад раніцы да абеда. На заканчэнне выступіў старшыня прэзідыума ў Юшкавым Грудзе Мікалай Міруць з падзякай усім прыбыўшым на грамадскую працу.

**Чарот**

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...рэвідэнты Фінансавага аддзела ў Бельску правялі ў першым паўгоддзі 1967 г. 38 кантроляў ва ўстановах і прадпрыемствах павета. Кантроль аказаўся плённым. У 5 кантраляваных адзінках выяўлена недахопы на 34.286 зл., у 17 выпадках парушана правілы бюджэтнай дысцыпліны. Справа на толькі істотная, што недахопы ў параўнанні да 1-га паўгоддзя ў 1966 г. у тры разы большыя.

Варта было б перадумаць, ці колькасць недахопаў пабольшылася ў сувязі з большай колькасцю кантроляў, ці справу ігнаруюць адказныя працаўнікі бюджэтных адзінак. (ак)

## КОЛЬКІ НАМ ПРЫБЫЛО?

Такое пытанне паставілі сабе гаспадары Бельскага павета, якія нядаўна разглядалі рэалізацыю праграмы развіцця жывёлагадоўлі. Шматгадовы план рэалізуецца ўжо ад 1963 года. Ад гэтага часу з кожным годам павялічваўся паказчык складу кароў на 100 гектараў зямлі. У 1966 годзе паказчыкі (на 100 га) былі наступныя: кароў — 47,7, свіней — 68,7, авечак 24,3 і коней 16,4. Лікі гэтыя не толькі абазначаюць большую колькасць хатняй жывёлы, але, што вельмі істотнае, палепшылася якасць і малочнасць кароў. У сярэднім вага адной каровы ўзрасла да 315 кг, калі ў 1964 годзе выносіла 303 кг.

Непасрэдны ўплыў на гэта мела загаспадараванне лугоў, а ў сувязі з тым большая колькасць сена, якая пакрывае запатрабаванне. Крыху горш справа выглядае з разнастайнасцю корму. Аказваецца, што сена ёсць удосталь, але калі разыходзіцца аб сочныя кормы, дык іх ёсць толькі 30—50% у адносінах да патрэб. Аказваецца, што не самым сенам карміць трэба кароў. (ак)




Дарагое Сэрцайка!

Маю 15 год. Жыву ў вёсцы З. Мой бацька з'яўляецца працаўніком ГРН. Яго ўсе шануюць. І я таксама хацела б, каб пра мяне людзі так добра гаварылі, як аб бацьку. Таму звяртаюся да цябе, каб ты мне параіла, як паступіць у маёй справе. Пакахала я двух хлопцаў, якія маюць па 17 год. Адзін з іх вучыцца ў павятовым горадзе, а другі працуе дома на гаспадарцы разам са сваім бацькам. Аднаго разу той, які вучыцца ў горадзе, правёў мяне дамоў, але гэты, што дома — прыстайнейшы. Парай мне, Сэрцайка, якога мне з іх лепш пакахаць? За параду буду вельмі ўдзячна.

**Таіса** з Гайнаўскага павета

**Дарагая Таіска!**

Мая рада: найлепш выбраць і пакахаць к н і ж к у. У тваіх гадах яшчэ трошкі зарана думаць аб хлопцах і каханні. І не варта заварочваць сабе галавы, бо тады і ў школе пачнеш даставаць двойкі. А школа цяпер табе найважнейшая. Можаш сустракацца з імі, пагаварыць, пасмяяцца, чаму не, але павінны гэта быць толькі сяброўскія адносіны. Бо займацца праблемамі дарослых яшчэ зарана.

Сэрцайка



**На рынку ў Гайнаўцы.**

## МЁДАНОСНАЕ ЖНІВО

Сёлета адна толькі спулдзельня «Вітаміна» ў Беластоку закупіла ад гаспадароў, што маюць свае пасекі, каля васемнаццаці тон мёду і амаль паўтары тоны вашчыны. З Беластоцкага павета закуплена каля дзесяці тон мёду, з Сакольскага павета — каля пяці тон. Рэшту закуплена з Лапскага і Манецкага паветаў, дзе вельмі слаба развітае пчалярства, хаця ўмовы да пчалярскай гаспадаркі там нягоршыя, чым у іншых. (ся)

## КАНТРАКТАЦЫЯ

Кантрактацыя жыта адбываецца добра, згодна з планамі на гэты год. У некаторых паветах, як Гайнаўскі або Беластоцкі, значна перавышана планы кантрактацыі жыта. Цікава зазначыць, што ў планы кантрактацыі жыта актыўна ўключыліся спулдзельні прадукцыйныя. Напрыклад, у Гайнаўскім павеце спулдзельні прадукцыйныя закантрактавалі 83 гектары жыта, у Беластоцкім павеце — 60 гект. жыта.

План кантрактацыі жыта ў Беластоцкім ваяводстве выкананы ў 124,1 працэнтах. (ся)

## МУРАВАНЫЯ ДАМЫ

Штораз прыгажэйшыя нашыя вёскі. Будуюцца ў іх прыгожыя мураваныя дамы. Такога тыпу дамы будуюць сяляне ў Крывой (Бельскі павет).



**Дом Уладзіміра Анішчука.**

Тэкст і фота. **Павел Зінкевіч**
Бельск Падляшскі

## ПРАФЕСІЯНАЛЬНАЯ ВУЧОБА ВЯСКОВАЙ МОЛАДЗІ

Многа пісалася аб тым, што зараз гаспадар — гэта прафесія, якая патрабуе не толькі ведаў, але і таленту. Каб магчыма найлепш падрыхтаваць людзей вёскі да гэтай прафесіі, створана і праведзена з гаспадарамі спецыяльныя курсы. Калі разыходзіцца аб падрыхтоўку моладзі, дык існуе некалькі форм. Асноўная з іх — гэта рознага тыпу прафесіянальныя школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Але вядома, што гэтых школ нямнога і не ўсюды могуць быць арганізаваны. Дзеля гэтага спулдзельчыя і маладзёжныя арганізацыі вядуць т. зв. калектывы сельскагаспадарчай і спулдзельчай падрыхтоўкі, а таксама калектывы маладога гаспадара. Напрыклад, у Бельскім павеце справа падрыхтоўкі моладзі, якая застаецца на вёсцы пасля заканчэння пачатковай школы, незадавальняючая. Толькі 190 маладых людзей на 360 ахоплены якой-небудзь формай сельгаспадрыхтоўкі.

Вядучую ролю ў развязцы гэтай справы павінен адыграць аддзел асветы. Трэба задбаць аб тое, каб усе СПР пачыналі навуку раніцай, а не як дагэтуль — вечарам, а таксама ў інвестыцыйных планах прадугледжваць памяшкальныя ўмовы не толькі пачатковай школе, але і СПР. (ак)

## УРАДЖАІ

Сярэдні ўраджай цукровага бурака ў 1962—1965 гадах не перавышаў 250 цэнтнераў з аднаго гектара. Найбольш відавочны рост яго ўраджайнасці дасягнута ў мінулым 1966 годзе (301 цэнтнер з аднаго гектара). Адначасова трэба адзначыць, што 1966 год быў надта спрыяльны для нашай беластоцкай сельскай гаспадаркі, якая ў мінулыя гады шмат пацярпела ад засухі або дажджлівых перыядаў. Першыя падлікі з гэтага года паказваюць, што ўраджайнасць цукровага бурака будзе нягоршай чым у мінулым годзе.

Падобна маецца справа з накосамі сена на нашых лугах. У сярэднім атрымліваецца каля 35 цэнтнераў сена з аднаго гектара. (ся)

# КІНО

**Праграма на 10—15.X.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Grymasy" (węgierski), 10—11. „Wojenko, wojenko" (polski), 12 13. „Subrina" (radz.), 14—15.

**Кляшчэлі**
„W poszukiwaniu wczorajszej miłości" (węgierski), 10—11. „Kapral w matni" (franc.), 12—13. „Człowiek z karabinem" (radz.), 14—15.

**Дубіны**
„Upiór z Morsville" (czeski), „Grunt to zdrowie" (franc.), 14—15.

**Нараўка**
„Kochajmy syrenki" (polski), „Miejsce dla jednego" (polski), 11—15.

**Нарва**
„Tomasz oszust" (franc.), 11—15.

**Чыжы**
„Don Gabriel" (polski), „Trzy życzenia" (rumuński), 11—15.

**Дубічы Царкоўныя**
„Ktokolwiek wie" (polski), „Towarzysze podróży" (radz.), 11—15.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Troje i las" (polski), „Anioł błogosławionej śmierci" (czeski), 11—15.

**Орля**
„Szkoła grzeszników" (czeski), „Wzgórze" (angl.) 11—15.

**Райск**
„Tomasz oszust" (franc.), 11—15.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Sygnały" (polski), „Matczyne serce" (radz.), 10—13.

**Міхалова**
„Flip, Flap i inni" (USA), 10—11. „Wiano" (polski), 12—13. „Fifiporko" (franc.), 14—15.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Na tropie policjantów" (angl.), 10—11. „Zwali go Alcapone" (jugosł.), 12—13. „Ludzie z hotelu" (USA), 14—15.

**Шудзялава**
„Ktokolwiek wie" (polski), „Fanfan tulipan" (franc.), 11—15.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Zejście do piekła" (polski), „Pociąg pod specjalnym nadzorem" (czeski), 14—15.

**Новы Двор**
„Trzy światy Guliwera" (angl.), „Pierwszy dzień wolności" (polski), 14—15.

**Ліпск**
„Czekajcie na listy" (radz.), „Nieprzyjaciel u progu" (radz.), 14—15.



Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. M-3.

# СЁМАЕ НЕБА

Жыў-быў у возеры Пячкур. Нядрэнна жыў, але ўвесь час яго мучыла адна думка: чаму гэта Шчупака ўсе баяцца, а яго, Печкура, не. Спытаў ён пра гэта ў старой Жабы, што заўсёды сядзела на карчы ля вады.

— Цябе і не будуць баяцца, — адказала Жаба, — пакуль ты не знойдзеш сабе моцнага сябра.

І вырашыў Пячкур са Шчупаком пасябраваць. Падплыў ён да Шчупака, калі той сыты быў, і прапанаваў:

— Давай, Шчупак, сябраваць.

Паглядзеў на яго Шчупак, паварушыў шчэлепамі і згадзіўся.

— Толькі, — сказаў ён, — трэба дамовіцца аб адным: не шкадаваць дзеля сябра свайго жыцця.

— Згодзен! — узрадаваўся Пячкур.

Паплылі сябры па возеры. Плоткі і нават Акуні шугалі ва ўсе бакі, калі бачылі Шчупака з Печкуром. Пячкур жа быў на сёмым небе ад радасці: яго баяліся...

На наступны дзень Шчупак захацеў есці, але, як на ліха, побач не было ні адной рыбкі. Тады ён звярнуўся да Печкура:

— Ці памятаеш, пра што мы дамовіліся?

— Як жа, памятаю, не шкадаваць жыцця дзеля сябра, — адказаў Пячкур.

— Дык вось, — вышчарыўся Шчупак, — надыйшоў час праверыць наша сяброўства.

Перш чым Пячкур паспеў што-небудзь падумаць, ён ужо апынуўся ў шчупаковых зубах.

*Уладзімір Отчык*

# НІЎКА

### ДОБРА ШТО МЯККІ

Да адыходу цягніка асталося некалькі мінут. Адзін чалавек замоцна паспяшыў. Добра ён не разлічыў сваёй хуткасці і стукнуўся галавою аб вагон так, што аж у вачах пацямнела. Калі паглядзеў, убачыў на вагоне надпіс «Мяккі». Схапіўшыся рукамі за галаву, ён ледзь прамовіў: «Гэта добра, што аб мяккі стукнуўся».

### ІЛЮЗІІ

Маладая дзяўчына звяртаецца да маці.

— Ведаеш, мама, ён сказаў, што я наймілейшая дзяўчына ў Варшаве. Ці магу яго запрасіць дахаты?

— Не, няхай лепш так далей думае.

### ШАНЦ

Бацька да даросглага сына:

— Памятай, мужчына павінен ажаніцца толькі з прыгожай жанчынай.

— Чаму?

— Тады існуе шанц, што ад яе вызвалішся.

### ВЯСЁЛАЯ ЗАБАВА

У тэатры ў час антракту дама ў прэтэнцыёзным капелюшы гаворыць мужчыну, які сядзіць за ёй:

— Калі вам перашкаджае мой капялюш, я магу яго зняць.

— Ды не, што вы! Ваш капялюш куды больш смешны, чым п'еса.

## ДРЭСІРОЎКА












Ці ты заўважыла, як мужчыны захапляюцца маім новым бантам?

## СОН

Пятро салодка жмурыць вочы,
Бярэ лірычны, мілы тон:
— Я, Клаўдзечка, мінулай
ноччу
Цудоўны вельмі бачыў сон.

Нібы на бераг, пад ракіту,
Прыйшлі ўдваіх мы, як тады...
Павеяў з поля водар жыта,
Смяяўся месяц малады.

І салаўі ў кустах грымелі...
У Клаўдзі, жонкі, вочы
пацяплелі:
«Бач, помніць родны мой
Пятро
Усё, што некалі было!»

— А потым ход падзей
змяніўся:
Той бераг — гух! — і абваліўся.
Ты ў рэчку — плюх — я раз
нырнуў
І ўратаваў цябе шчаслівa.
Пятро тут Клаўдзю прыгарнуў:
— Ну, дай хоць два рублі...
на піва.

**Аляксей Усціновіч**

### ПЫТАННЕ

Пасля вельмі доўгай прамовы прамоўца пытае ў слухачоў:

— Пытанні ёсць?

— Ёсць.

— Слухаю.

— Колькі гадзін?



## ОЙ, БЯДА Ж МАЯ

### (НАРОДНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ)

Ой, бяда ж мая, ой, бяда ж мая,
Бяда мая не вядзецца.
Гэй! А пад вішняю, пад зялёнаю,
Там бядулька спаць кладзецца.

Палажу бяду ў вішнёвым саду
На пярыначцы спаці.
Гэй! Я сама пайду, маладзенькая,
На ўсю ночку піць, гуляці.

Ой, каб я знала, каб я ведала,
Сваё горкае замужжа,
Гэй! Не пайшла ж бы я ні за п'яніцу,
Ні за праклятага мужа.




### НЕ ЗАЎВАЖЫЎ



Дзесяць год вас не бачыў, а вы ўжо і сабачку маеце.

### ПРАВАЛІЎ

Сын званіць маці: «Экзамен праваліў, падрыхтуй бацьку».

На наступны дзень ён атрымаў адказ: «Бацька падрыхтаваны. Падрыхтуйся ты».

### ШЧЫРАСЦЬ

Бацька заўважыў, што яго некалькігадовы сын маніпулюе запалкамі.

— Колькі раз я ўжо табе гаварыў, каб не гуляў ты запалкамі.

— Я зусім не гуляю.

— А што робіш?

— Падкурваю папяросу.

# КУРЁЗЫ

### НІ СЛОВА АБ НОСЕ

У Лос-Анжэлесе існуе клуб даўганосых мужчын. Паводле статуту на пасяджэннях клуба не дазваляецца гаварыць аб носах.



### НАВІНКІ Ў БАРАХ

Каб наведвальнік не ўпаў пасля лішняй чаркі, у некалькіх барах ЗША ўведзена навінка. Пры століках на высокіх крэслах знаходзяцца спецыяльныя завязкі, нешта падобнае, як у самалёце. Калі ап'янеўшы ўпадзе, ён не паб'ецца, а толькі завісне на гэтых завязках.



### МЕТАД ВЫЦВЯРЭЖВАННЯ

Турэцкая транспартная паліцыя не карае п'яных вадзіцелей машын грашовымі штрафамі. Замест гэтага паліцэйскія возяць іх на своеасаблівую прагулку: бяруць п'янага шафёра ў паліцэйскую машыну, адвозяць за 30 км і пакідаюць на пустыннай дарозе. Гавораць яны, што такі метад дзейнічае выцвераджальна.




**Праўда нагадвае цыбулю: той, хто хоча садраць з яе лупіну, павінен заплакаць.**